Тарас Касмінка

# Казкі

*паводле народнага*
*(для дзяцей, і не толькі)*



Мінск
«Смэлтак»
2010

УДК 821.162.3(82-1)
ББК 84 (4Беи)
К 47

**Камінка Т.**

К 47 Казкі: Тарас Касмінка. – Мінск : Смэлтак, 2010. – 164 с.

ISBN 978-985-6917-61-8

Творы Тараса Касмінкі – вершаваныя казкі-паэмы – ужо знайшлі свайго ветлівага, уважлівага і дабразычлівага чытача. Яны вызначаюцца тонкай назіральнасцю аўтара, незвычайным, часам проста неверагодным, паваротам падзей, своеасаблівым гумарам. Творы, што прапануюцца чытачу зараз, разлічаны на пранікнёны чатацкі густ, яны будуць аднолькава цікавыя як зусім юнаму, так і даросламу чытачу.

**УДК 821.162.3(82-1)**
**ББК 84 (4Беи)**

**ISBN 978-985-6917-61-8**

# КАЗКА ПРА ДЗЕДА І БАБКУ ДЫ МІЛУЮ КУРАЧКУ РАБКУ

Жылі сабе дзед і бабка
І была ў іх курачка Рабка.

Нічога старыя не мелі
З таго, што ў жыцці хацелі:
Ні дзетак, ні ўнукаў ім
Гаспадзь не пакінуў саўсім.
Толькі ў двары чутно:
"Ку-дах!-тах-тах! Ко-ко-ко!"

Жылі яны так, жылі;
І ўрэшце на дні прыплылі:
Не стала *чаго* варыць.
А неяк жа трэба жыць!
Жывая душа ў труну
Не ляжа… Каб хоць вайну
Мусіў гаспадзь паслаць, –
Не страшна было б канаць.

Вось кажа бабульцы дзед:
"Які ж ён няроўны – свет!
Ну, што нам з табою рабіць?
Хіба што *яе* забіць, –
Нашу курачку Рабку,
Тоўсценькую чубатку?!
Не з голаду ж нам паміраць…
Хоць разам мы дзвесце пяць

Гадочкаў і пражылі,
А так паміраць – не з рукі…
Бог знае, што будзе далей.
А зараз, бабулька, – *смялей!* –
Сячы ты ёй галаву
Ды навары крупняку:
Тлустых яе сцягнякоў
Хопіць на колькі разоў…”

Замахала бабулька рукамі:
“Гэта што-ста? Што-ста з вамі,
Малады чалавек, утварылася?”
Тут у дзеда ўжо сэрца ўсхадзілася:
“Бог з табою! Ты што – звар'яцела?!”
“*Да!* каханенькі, я – ашалела!”
Дзед пачухаў віхор галавы:
“Ты чаго-ста, бабка, – “на вы?..”
“А “таго!” – раскрычалася бабка, –
*Толькі – й шчасця* ў мяне, што чубатка!
*Маёй* міленькай Рабкі-касаткі
За даляры, рублі *(ці то маркі!)*
На загубу табе не аддам,
Хоць пілуй ты мяне папалам!..
Лепш мы будзем з табою галодныя,
*Але* куркіны крылкі лагодныя
Не дазволю адсекчы-зварыць!”
“Вось такая, значыцца, *жысць*”. –
Дзед падумаў; пачухаў віхор…
Сплюнуў, тупнуў, выйшаў у двор.
Самасаду дастаў – з каранямі;
Закурыў-усміхнуўся… Ён днямі
Ўспамінаў даражэнькае штосьці
З непаўторнай сваёй маладосці:
Як ён з бабкаю неяк кахаўся;

Аж да пеўняў гуляў-заляцаўся;
На ігрышчах з хлопцамі біўся, –
Бо з каханаю *сэрцам* злучыўся…
Песні пеў, не шкадуючы лёгкіх,
Хоць навука была і не з лёгкіх
Спасцігаць тую самую дудку…
Дзед ізноў закурыў самакрутку;
Зацягнуўся жадзёна-спакусна:
На старэнькіх маршчыністых вуснах
Засвяцілася ціхая ўсмешка –
Бы да бога празрыстая сцежка…
Дзед успомніў, як ён спрабаваў
Быць пісьменнікам, вершы пісаў:
Пасля той альбо іншае ночкі
Мармытаў *сабе* гукі-радочкі!..
Тут у дзеда стаў твар пурпурным;
Бровы-дугі сышліся пахмурна;
І ў блакітных вачах пацямнелых
Цень мінулых агеньчыкаў смелых
Заіскрыўся; успыхнуў пажар:
Дзед успомніў, як неяк, – *ваяр!* –
Ён збіраўся ў апошні паход;
Дзеду йшоў тады соценны год…
Была зноўку вайна з маскалямі,
З тымі чорнымі чужакамі:
Як *умелі* яны абылгаць;
Біць пад сэрца; дзяўчат абражаць;
Піць свінячую брудную кроў;
Есці брыдкае мяса тхароў;
Даць на лапу любому чыноўніку:
Прэзідэнту, міністру, палкоўніку;
Падхалімнічаць; вершы паліць;
А затым – нізавошта забіць!..
*Толькі* – вельмі стаміўся народ;

*Да таго ж яшчэ* – з году на год
Насцігаў яго неўмалот; [1)]
Абціраючы з твараў пот,
Падымаліся людзі з калень, –
Каб свабодны наблізіўся дзень…
Мужна біліся восем сыноў,
Восем дзедавых вояў-дубоў;
Тры дачушкі на трох франтах
*(На дзявочых сваіх плячах!)*
Выносілі хлопцаў з палёў;
Чатырнаццаць унукаў-дубкоў
Мусіў дзед адпусціць ваяваць…
*Калі ж* – трохі пачаў затухаць
Дух вялікай свабоднай вайны,
*Апынуўся* – й дзед на кані!
Закіпела ў старога кроў:
Дваццаць пяць на кладах крыжоў
Зачарнелі ў калядныя дні;
*Дочкі-ўнукі,* асілкі-сыны, –
*Ўсе* загінулі за народ!..
Тут і выкапаў дзед кулямёт;
Дудку мілую зняў са сцяны –
І пайшоў па сцяжынах вайны.
Смела кідаўся ў пекла баёў:
Ціха-моўчкі, без лішніх слоў;
Дзе б ні быў ён, усюды іграў,
Песні вольныя дужа спяваў.
*І* – выгнаў народ маскалёў!..
Дзед успомніў забітых сяброў…

Ды аднекуль, злева ад хаткі,
Закудахтаў голас чубаткі.
Праз хвіліну яна, – бы пава,
Што выходзіла з пены жвава! –

Выплыла з-за вугла…
З вока дзеда сляза пацякла:
“А курка ў нас, праўда, харошая;
І чысценькая, і прыгожая, –
Падумалася дзядку. –
Ну, як тут падняць руку
Адсекчы ёй галаву?..
Лепей я зноў закуру!..
*Ах!* як яе пер’е блішчыць,
На сонейку зіхаціць,
*Быццам* убор які!..
*Не!* Не падняць мне рукі…”

Смеючыся ды крэхчучы годна,
Дзед раптоўна – зусім бестурботна! –
Паказаў сваёй курцы язык
(Мабыць, здарыўся з дзедам бзык!..
Ды бяда гэта – не зараза…)
Накурыўшыся з трэцяга разу;
Ды падняўшы віхор *(для парадку!)*
Дзед вярнуўся да бабкі ў хатку.

Бабка ціха ў акно глядзела.
Дзед, кашляючы, рушыў нясмела…
Прытуліў да грудзей сваю бабку:
“Зараз бачыў я нашую Рабку…
Ходзіць, важная, па двары!..”
“Што ты вырашыў, мой *стары?*” –
Бабка ўзняла гаротныя вочы.
Дзед абняў яе сэрцам ахвочым:
“*А-а-а!* няхай сабе пагуляе!
Мо яшчэ куранятак прыдбае?..”
“Дык жа пеўня ў яе няма!..
Што нам, дзед, спадзявацца дарма?” –

Бабка выцерла слёзкі насоўкай.
Дзед абняў яс за галоўку;
Стаў пяшчотныя словы шаптаць…
"*От!* давай лепш у "дурня" гуляць!.."

Дзед пачаў тасаваць калоду.
Гэта ж ведама: год ад году
Пад старасць усс старыя –
Бы дзетачкі тыя малыя!
Іх трэба як след даглядаць,
Пацсшыць, гарбаты [2] падаць;
А часам, да самай зарніцы,
Наладжваць ім вечарніцы…

Ды старыя родных не мелі.
*Таму* – проста за стол прыселі,
Каб трохі ў "дурня" згуляць.
*Але!..* дзед пачаў махляваць:
То дзве карты ўпадуць на падлогу
*("Вось жа бог утварыў нябогу!..")*
То, тасуючы карты памалу,
Сабе скіне казырную даму…

*Толькі* бабка сачыла ўважліва,
Наракаючы дзеда паблажліва:
"Чым ты б'еш маю карту, пень?!
Хіба ж ноч на дворы – нс дзснь!..
*На!* вазьмі акуляры…" – "Не трэба... –
Дзед узняў свае вочы да неба. –
Я хацсў цябс рассмяшыць…"
Так цякла іх старэчая *жысць*…

А ў той час на двары, на вуліцы,
Нехта слёзкамі горкімі муліцца.

*Гэта ж...* наша курачка Рабка,
Залацістая пава-чубатка!

Што ж ты, курка, так зажурылася?
"Лепш бы я на свет не ўрадзілася!..
*Ну,* нашто ім *(у дні старыя!)*
*Мае* гэтыя слёзкі нямыя?..
Мала богу, што ўзімку ім холадна;
Стала ўлетку яшчэ і галадна!..
І за што мне такое гора?..
Мой жа род *(ад мора да мора!)*
*Працавітым* лічыцца ў свеце…
Як не ў час ты загнуўся, Пеця! –
Маскальская твая кроў!..
*Чым* пеставаць гаспадароў?!
*Ой! ко-ко-ко!* Вось жа навала
Старых маіх напаткала;
Не! вочкі мае не здужаць
Такую віну адужаць;
*Я ж* сёмы дзень не нясуся!..
*Пайду!* лепш у рэчцы ўтаплюся:
Мае бяссілыя плечы
Не вынясуць іхняй галечы!.."
Пабегла курка тапіцца…

Ды мусіла шчасце – *адбыцца:*
Бо лугам ішоў вандроўны –
З-пад Вільні паэт красамоўны…
Спыніўся ён каля рэчкі…
На небе *ўжо* зоркі-свечкі
Паціху пайшлі загарацца
Ды весела ў пары збірацца…

*Вось і выпала стрэцца вачыма!..*

Не маглі прайсці яны міма
Адзін аднаго… У нябёсах
Закружыўся Гасподні посах!
Гэта бог у сваіх руках, –
*Напаўняючы Млечны Шлях! –*
Яго коўш! – *залатымі каменнямі! –*
Нанасіў ім радасці жменямі:
*Ім* – курцы і пеўніку – ім! –
Зручоным каханнем адным!

*Курка* – мудрай душою царыца,
Што і *ў сне* не заўсёды прысніцца!
Дык і пеўнік *(вось бог жа ім даў!)*
Ад панянкі сваёй не адстаў:
І прыгожы ён, і ваяўнічы,
І работнік ён, і паляўнічы!

*Дык лунай жа на небе, – узор!..*
Певень трохі паправіў віхор:
"Ці магу я ў дзяўчыны спытацца,
Як завуць яе?.." – "Заляцацца, –
Кажа курка, – нягожа нахрапам!.."
"*О,* даруйце! *калі я* ўжо раптам
Не тое сказаў; не хацеў!" –
Бедны певень ажно… успацеў.

*Закаханаму* – не ў навіну
Адчуваць нізавошта віну:
Калі нават спытаеш імя…
*А дзяўчына?..* Ды хоць бы сама
*Яна* хлопцам *якім* і цікавіцца,
Усё роўна: *яму* прызвычаіцца
Давядзецца да будучых зносін!..
Што тут зробіш? *Каханая* просіць…

Пеўню стала ўжо меней зябка:
"*Я* – Ягайла!" – "Чубатая Рабка..." –
Курка трошкі *(ледзь-ледзь!)* прысела.
Сэрца хлопца *да ног* абамлела:
"*Ах!* які рэверанс! Бсзумоўна,
Вы, калі не Венера, – князёўна!"
"А што, калі я – з сялянак?"
"Вы толькі ўкажыце мне ганак
Спагадлівых гаспадароў,
Клянуся: без лішніх слоў
Пайду, – *праз віхуры-снягі!* –
Прасіць я вашай рукі!" –
Хлопец ледзьве не падае з ног...
"Ну-то пойдзем! Вядзі нас бог!.."
*І* – пайшлі: *курка* – сонцам ззяючы;
*Певень* – следам: ценем ступаючы...

Ды раптоўна Ягайла спыніўся,
Да бярозкі плячом прытуліўся;
Азірнулася Рабка-чубатка:
"Вам па сцежцы ісці нягладка?"
"Не; ўсё добра. Хочацца піць:
Так сасмагнуў, быццам – не жыць...
Мо, дасцё мне ў дзюбцы вады?"
"Добра... Толькі пяройдзем на "ты...""

Вось крыху наталіўшы смагу,
Праявіў ужо *певень* адвагу:
"Давай, любая, знойдзем брусок,
Ці хоць цвёрды які калок:
Як стукну я ім аб касу
Ды выбухну: "Ку-ка-рэ-ку!" –
Лягчэй будзе гаспадару
Прыняць мяне ка двару..."

Так і рушылі ў куркін двор:
Прылізаўшы Ягайлу віхор
Жывою крынічнай вадою, –
Каб не згарэў галавою...
А на двары ўжо бабка
Шукала, дзе дзелася Рабка...
І ўрэшце – заўважыла іх,
Каханенькіх-дарагіх! –
Бо злева, аднекуль з поплава,
Пачулася песня цёплая...

"Добры дзень вам, дзед і бабка!
*Гэй!* Ку-ка-рэ-ку!
Спадабалася чубатка
Хлопцу-мужыку!

Ну няхай я і кульгавы,
Раны *шчыпляць* бок, –
Толькі вашай куркі-павы
Не аддам, дальбог!

*Вось!* бярыце, – хоць на згубу! –
Галаву маю;
Я крычу на ўсю акругу:
*Я! – яе! – люблю-ю-ю!..*

Многа я блудзіў па свеце:
Біўся, піў, гуляў...
Лепшай дзеўкі на планеце
Я не сустракаў.

Дык прыміце ў свой падворак,
*Госпадам* малю!..

*Калі ж* – не... Знайду я корак, [3]
З'ем яго, памру…

Гэта справа нажыўная:
*Будуць* яйкі ў вас!..
*Гэй!* Ці ёсць душа жывая?
Час трымаць адказ!.."

"*А каго ж нам гасподзь прынёс?!*
Нясі ты, *стары*, авёс!.."
*Дзед* – выбег на двор, зірнуў;
Ды ястрабам прашмыгнуў
У цёмны пакой – каморку! –
Набраўшы ў талерку *(з горку!)*
Апошнюю жменю аўса,
Вярнуўся на двор бы аса;
*І,* зірнуўшы з усмешкай на бабку,
Стаў Ягайлу карміць; ды чубатку…

Вось так яны і зажылі;
Па цёплым жыцці паплылі:
*Дзядок* – з даражэнькаю бабкаю…
*Ягайла* – з мілаю Рабкаю…
*Толькі раз* ён у куркі спытаў:
"Я цябе *ля ракі* пакахаў!..
*Што* цябе туды прывяло?"
"А-а-а! запэцкала нечым крыло!.." –
Так адказала чубатка,
Мудрая курачка Рабка.

*22.03.-02.04.2002.*

---

[1] Неўмалот – *недабор ураджаю, – **удакл.аут.***
[2] Гарбата – *чай, – **удакл. аўт.***
[3] Корак – *пробка, – **удак. аўт.***

## МУЗЫКІ

Жылі без залішніх турбот
Асёл, сабака, певень ды кот.

*Умелі* яны сябраваць:
Вернае слова сказаць;
Падзяліцца кавалкам хлеба;
Пабіць чужых, – калі трэба…
Так і жылі-не тужылі;
Бясстрашна дзядку служылі:
Асёл з далёкіх лясоў
Мог лёгка прывезці дроў;
Сабака, як і належыць,
Сцярог гаспадарскія вежы;
Певень, устаўшы ўранні,
Будзіў дзядка на світанні;
А кот – у цемры начэй! –
Лавіў у падпечку мышэй…

Ды беглі за годам год…
Здарыўся неяк няўрод: [1)]
Не ўрадзіла ні морква, ні рэдзька
*(Дык і бульба ўзрасла вельмі рэдка…)*
*Каровы ж* дзед не трымаў,
Занадта стары ўжо стаў:
*Верце-не верце,* дзядок
Сто трэці адзначыў гадок!..
Дый нашы сябры-героі
Ужо пастарэлі паволі.

*А тут* – няма чаго есці.
Таму, на самым прадвесні,
Зololелі рукі гаспадара
Выгнаць іх са двара.
Пайшлі яны ў свет сірочы,
Апусціўшы доланьку вочы…

Ды слязьмі, тою вадою,
Не заліць гора з бядою…
Сышліся ў чароўным лесе –
Сярод бярозак-алешын;
І пачалі меркаваць,
Як ім век дажываць…
Самы разумны – *асёл!* –
З гонарам, быццам вол,
Прапанаваў: "Давайце!..
Цішэй; *не перабівайце!*
Зробімся мы – *музыкамі…*"
*Усе* заскакалі з крыкамі:
Сабака раве: *"Гаў-гаў!"* –
Ажно ваўкоў напужаў.
Певень прысеў на суку,
Выцягвае: *"Ку-ка-рэ-ку-у-у!"*
І коцік не адстае:
*"Мяў-мяў!"* ды *"Мур-мур!"* пяе.
*Асёл жа* – надумаў маўчаць
(Тут трэба *дакладней* сказаць:
*Чаму* дарагія сябры
У лесе – *не на двары* –
Рашылі музыкай жыць;
І чаму той асёл маўчыць?..)
*У дзядка ім – добра* жылося;
*Таму* псць *і не давялося...*
Кожны ведаў сваю работу,

Працаваў да сёмага поту;
*Калі ж іх* прагнаў дзядок,
Сябрамі заняўся бог:
А *што ім* яшчэ рабіць,
Калі *ні песняю* жыць?!

Як ведама, певень ды кот –
Пацвердзіць і бусел, і крот –
Музыкі адвеку – з уроды
(Што значыцца – ад пароды!)
Сабака – таксама спявак:
Не ведаеш ты?.. *Дзівак!* –
Не толькі ён гаўкаць умее,
Як трэба – павыць сумее!..
Наконт жа асла? *Скажу:*
Вушастую тую душу
Гасподзь надзяліў спаўна
Толькі песняй: *"Ій-а-а-а!.."*
*Але ж* і асёл – музыка:
То ж ён *(без крыку ды гіку!)*
*Думку* тую падаў:
Каб *кожны* з іх заспяваў!..

На тым і рашылі сябры:
Да той альбо іншай пары
Спяваць, як умеюць, песні
*(Тым больш, на самым прадвесні!..)*
Па лесе, па роднай зямлі,
Пастроіўшыся, пайшлі:
*Асёл*, зразумела ж, першым:
Спрабуючы скласці вершы;
*Сабака* ступіў другім;
Трэцім – *кот;* а за ім –
Замыкаючы шчыльны рад,

Быццам які парад! –
*Той*, хто з даўніх часоў
(Ад казак сівых дзядоў!)
*З касою* свет спасцігаў:
*Певень* рад замыкаў!

Доўга ішлі ці не,
Аб тым невядома мне…
*Аж бачаць*: глыбока ў лесе
*(Так, дружа мой,* **не** *на ўзлессі!)*
Ад вока людскога схаваная,
Хата стаіць драўляная:
Навокал, ажно да зор,
Цёмны чарнес бор…

*Спыніўся* асёл-правадыр:
"*Калі* ўжо я – камандзір!
Слухай, мой верны атрад,
Першы рашучы загад:
*Будзем спяваць!..* Давайце,
Усе на мяне сядайце:
Грымнем, аж да дубровы,
Песню роднае мовы!"

Разагнаўся сабака крыху,
*Скакануў* на спіну аслу;
Кот на сабаку ўзлез;
Аглядаючы пільна лес,
Певень лёгка ўзляцеў,
На коціка ціха прысеў…
Як грымнулі дружна спеў –
*Ажно* ўвесь лес задрыжэў!

Далей ад ліха-бяды

Пахаваліся хто-куды
Лясныя ўсе жыхары:
Хто ў норах, хто ў гушчары…
Прачнуўшыся ледзь ад сну,
Зноўку мядзведзь заснуў,
Смокчучы лапу нагі
*(А трэба ж было б – рукі!..)*
Ёкнуўшы сэрцам, змоўк
Пад поўняю шэры воўк;
Не чуваць на дрыгве кулікоў,
Сакавітай працы баброў;
Не шукае сабс жалудоў
Зграя дзікоў-кабаноў;
Не бачна нават лісіцы –
*Той* рыжай дзеўкі-хітрыцы…

*Ціха* ў лясной глушы:
Хоць *вершы* бяры-пішы!

Напалохаліся звяры...
Бо пелі нашы сябры
На розныя галасы:
Сапраны, альты, басы…
Ад дружнай іхняй злучальнасці
*Змяшаліся ўсе* танальнасці,
Якімі адзначыў свет
Сівенькі божанька-дзед…
  “Ій-а! Ій-а!..”
  “Гаў!-гаў!-гаў!..”
  “Ку-ка-*р-э-э*-ку!..”
  “Мяў!-мяў!-мяў!..”

Так падышлі да хаты.
Асёл, правадыр заўзяты,

Ціха шапнуў сябрам:
“Магчыма, гаспадарам
Была не чутна наша песня:
Гушчар расце вельмі цесна...
Дык грымнем на поўныя грудзі!
*А там* – што будзе, то й будзе…”

*І – грымнулі!* Што тут зрабілася?!
Ажно тая хата ўсхадзілася!..
А ў хаце жылі бандыты:
Народ – не зусім працавіты…
Прыйшлі яны з дальніх лясоў,
З усходніх чужых бароў,
Рабаваць беларускіх людзей
(На чужой старане – смялей…)

“Ій-а! Ій-а!..”
“Гаў!-гаў!-гаў!..”
“Ку-ка-*рэ-э-э*-ку!..”
“Мяў!-мяў!-мяў!..”

“*Лес* вушамі я мяту!..”
“*Мне* сяброўка – Поўня!..”
“*Я* – з касою ў свет іду!..”
“*Мне* – і леў не роўня!..”

Як пачулі той спеў бандыты,
Кожны ў горле адчуў ваніты; [2)]
Папужаліся не на жарт:
Пакідалі вееры карт,
Ды кінуліся наўцёкі,
Адмяраючы дзіўныя крокі…
*Адчыніў асёл дзверы:*
хата

Усялякім дабром багата!..
У вялізарнай дзяжы –
*Да столі!* – сала ляжыць;
З добры кулак рукі
Кілбасы вісяць; *кумпякі*...
Многа *проса* харошага,
Сена, аўса... *А грошай?*
*Мо* да сабачых калснь!
(Ды гэта – на чорны дзснь...)

*Абрадавалася* капэла!
Адчула сябе *больш* смела:
*Шчасце! – што й ні кажы!*
Паслі сябры ад душы;
Напіліся з крыніцы
Чыстай сцюдзёнай вадзіцы;
Ды дружна сказаўшы: "Дабранач!" –
Сталі ладзіцца нанач.

Першаму выпала зноўку аслу:
"*Я* – заўсёды на сметніку сплю;
Дык і сёння тут прымашчуся...
*Я* – і чорта на ім нс баюся!"

"*А я* – звыкся спаць ля дзвярэй;
Хоць даўбсшкай мянс агрэй, –
Азваўся сабака строга, –
*Я* – вартаўнік ад бога!"

Пазяхаючы ды прыкрываючы рот,
Падаў галасочак і кот:
"*А мне* месца – заўсёды на прыпечку;
*Заўтра* будзем *гуляць – чую выпячку!*"

“*А я* – прымайструюся пад страхой, –
Песнь жэрдачку ўбачыў над галавой. –
Так спачывалі ва ўсе гады
Бацькі мае і дзяды…”

Размясціліся так, паснулі.
Раптоўна сябры адчулі,
Як не на жарт патаміліся...
*А бандыты – ў лесе стаіліся!*
Аб хатцы згубленай дбаюць;
Паціху сабе разважаюць:
*Хто ж іх* так напалохаў? –
Аж да “енкаў” ды “охаў!..”

Вырашаючы міг запаркі,
Пацягнулі сырыя запалкі;
Пасылаюць у хату бандыта:
“Ты ідзі, наш дружа Мікіта,
Наведай родныя сцены…
Каб не дрыжэлі калені,
*На!* пацягні гарэлкі…
*Мо* пасмялеюць зрэнкі…”

Падыходзіць бандыт да хаты…
Ціха ў двары. Стракаты
Месяц вісіць на небе;
Зоркі на чыстай глебе
У сузор’ях свабоды
Водзяць шляхі-карагоды…
Ды не бачыць бандыт хараства
(Не зляцела б з плеч галава!..)

Заходзіць у хату. Маўчок.
Ён з печы дастаў смалячок;

Ідзе асцярожна да прыпечка
*(Ой! пахне мясная выпячка!)*
Хоча агню пашукаць…
*Аж бачыць:* ярка блішчаць
Вугольчыкі два, з пятак!
"Вось, – думае, – *верны знак*!.."

Пацягнууся да іх рукою…
*А кот – хваць* кіпцюрнёю! –
Ды *як драпане* чужака:
Залілася крывёю рука!..
Спужаўся, пабег "небарака";
А *тут* ля дзвярэй *сабака*
Як *хапане* за сцягняк:
Зрабілася дзірка з кулак!..
"*Ну?* – ўздумаў бандыт, – паміраю!"
Ды бачыць: з левага краю
*Ляціць нешта…*
Як *дзеўбане!*
*(То – пеўнік пацэліў: па мазгаўне!..)*
Ледзь вылез бандыт на волю,
*Асёл* – як *штурхне* нагою!..
*Тройчы ён* перакуліўся…
*Праз міг* да сяброў далучыўся…

*І* – расказвае: "Хлопцы! Братва!..
*Быў я ў нашай хаце…* Бяда!..
Нейкая страшная сіла
Жытло наша засяліла…
Пачаў я вуглі шукаць,
А нехта з прыпечку – *шасць*
Мяне па руцэ *нажом!* –
Аж *зоры* ўбачыў кругом;
Кінуўся я ўцякаць

*(Ды, мабыць, такая масць!..)*
Ля парога мяне
*Шабляй!* ды па назе!..
А трэці, бы д'ябал які,
Вырваўся з-пад страхі,
Прабіў галаву *кап'ём*
*(Ну, поўны, братва, садом!..)*
Прарваўся нсяк на двор
*(Каб іх! – не бачна зор!..)*
Думаю: "*Ўсё!..* Свабода!"
Ды хтось, ля самага плота,
*Даўбешкай* мяне як стукнуў –
Ледзьве я не каюкнуў!..
Тройчы пеpакуліўся…
*І вось* – да вас далучыўся…
Прапала, братва, наша хата!..
Уцякайма *дамоў;* ці на Захад!.."

Паўцякала бандыцкае гора,
*Можа,* нават за Чорнае мора…
Толькі хутка бандытаў злавілі;
Ды ў турмы ўсіх пасадзілі…

*А музыкі?..* Асталяваліся,
Чысценька ў хаце прыбраліся:
Жывуць сабе, пажываюць
Ды ліха-бяды не знаюць.

*23.04.2002.*

---

[1)] Няўрод – *дрэнны, нізкі ўраджай,* – **удакл аўт.**
[2)] Ваніты – *тое, што вывяргаецца са страўніка пры ванітаванні, рвоце,* – **удакл. аўт.**



## КАТОК – ЗАЛАТЫ ЛАБОК

Нядаўна, а можа, даўно
*(Вам, дзеткі, не ўсё адно?!)*
Жылі сабе дзед і баба.
Жылося ім, дзеткі, слаба:
Нічога *няма ім* насіць,
Нічога *няма ім* варыць…
Таму, на нейкім дзяньку,
Вось бабка і кажа дзядку:
“Вазьмі ты, дзядок, тапарок,
Паедзь ты, дзядок, у лясок,
Ссячы там дубочак-дубок…
Звязі на рынак які,
Прадай… Ды купі мукі:
З мяшэчак, на паў-рукі!..
Спячом мы з табою хлеб
І зажывём без патрэб!”

Назаўтра, устаўшы ўранні
*(Так,* дзетачкі: ***не на світанні!)***

Не выспаўшыся як след,
Сабраўся-пасхаў дзед…
Нарэшце – вось і лясок.
Пачаў ён секчы дубок.
*Аж!..* выскачыў з дуба каток!
Каток – залаты лабок:
Вушка адно – залатое,
Срэбненькае – другое;
Золата-срэбна шарсцінка,
Золата-срэбная спінка;
Золата-срэбныя лапкі:
Лапкі, лапкі-царапкі!..
*(Прыгожы каток – дальбог!..)*
Спытаў у дзеда каток,
Гледзячы ціха ў неба:
"*Што ў цябе*, дзед, за патрэба
Секчы мой *цуд*-дубочак?
*Кінь ты*, дзед, тапарочак!.."
Адступіўшы назад, на крок,
Кажа сівы дзядок:
"*А! каточак,* ты мой галубочак!
*Не хацеў я* секчы дубочак.
Ды з'слі мы ўсе харчы…
Вось бабка і кажа: ссячы,
Маўляў, у лесе дубочак,
Накладзі – *дроўцаў* (з вазочак)
Адвязі на рынак які,
Прадай, ды купі мукі:
*Нямнога, толькі на хлеб,*
Каб дажыць без патрэб!.."
Усміхнуўся ў вусы каток,
Каток – залаты лабок,
І кажа: "Мой ты дзядок!
Едзь дахаты, браток!

*Будзе ў вас* з бабай мука –
Вось табе лапка-рука!..”
Не чуючы сэрца *(ног!)*
Паехаў дахаты дзядок…
*Ажно!..* у хаце мукі –
*Ну, хоць ты жыві без чаргі!*
Повен-поўны засек:
Хопіць *на доў-ў-ўгі* век!..
Бабка, без лішніх слоў,
Нагатавала блінцоў;
Сама наелася дужа,
Накарміла *дзядка – як мужа;*
І кажа: “Паслухай ты Фросю!
Хіба ж блінцом наямося?
Заціркі б нам наварыць;
*Ды гора:* чым пасаліць?..
Вазьмі ты, дзядок, тапарочак,
Паедзь ты, дзядок, у лясочак,
*Стукні* ў родны дубочак:
Мо выскачыць наш каточак?
Папрасі ў яго трохі солі…”

“Можна.” – падумаў міжволі
Стары сівенькі дзядок.
Узяў ён свой тапарок,
Паехаў у пушчу-лясок;
Ды стукнуў у той дубок…
*Выскачыў* з дуба каток,
Каток – залаты лабок:
Вушка адно – залатое,
Срэбненькае – другое;
Золата-срэбна шарсцінка,
Золата-срэбная спінка;
Золата-срэбныя лапкі:

Лапкі, лапкі-царапкі!..
І кажа, гледзячы ў неба:
"Дзед-дзед! Што табе трэба?"
Дзед у адказ: "*Каточак!*
*Каточак, ты мой галубочак!*
Кажа бабка мая:
"Хлеб – хлебам; солькі няма!.."
Усміхнуўся ў вусы каток,
Каток – залаты лабок,
І кажа: "Мой ты дзядок!
Усё будзе добра, браток!
Едзь спакойна дахаты…
Свет на дзівосы – *бага-а-аты!"*

Аб'язджаючы сена-мурог,
Паехаў дахаты дзядок…
*Бачыць:* у хаце солі –
*Аж* да сэрца-патолі! * –
Цэлая дзежка стаіць
(Можна да смерці жыць!..)
Па-роднаму, без прыціркі,
Наварыла бабка заціркі,
Наелася з дзедам дужа
І кажа: "Каханы!.. *Дру-у-ужа!*
Не шкодзіла б нам цяпер,
Ты ўжо, любы, павер,
Капустачкі паспытаць…
*Ну! мілы,* хопіць бурчаць:
Вастры ты свой тапарочак,
Едзь у любімы лясочак,
Пастукай ціха ў дубочак,
*Выскачыць* наш каточак!..
Галоўнае – не крычы:
Капустачкі папрасі…"

Навастрыў дзядок тапарок,
Пасхаў у лес-лясок;
Стукнуў ціха ў дубок…
*Выскачыў* мілы каток,
Каток – залаты лабок:
Вушка адно – залатое,
Срэбненькае – другое;
Золата-срэбна шарсцінка,
Золата-срэбная спінка;
Золата-срэбныя лапкі:
Лапкі, лапкі-царапкі!..
І, весела гледзячы ў неба,
Пытае: "*Што,* дзедачка, *трэба?*"
Дзед зноўку: "*А! мой ты каточак!*
*Каточак, ты мой галубочак!*
Хлеба і солі ўдосталь;
Ды бабка капусты просіць.
Даруй, калі што…"
– "*Дзядок!* –
Адказвае добры каток. –
Не цяжка гэта датумкаць:
Як добра *капусткай* хрумкаць!.."
"Праўду кажаш, каток…"
"Вядзі цябе бог, дзядок!.."

Узабраўся дзядок на воз;
Ды смеючыся да слёз,
Паехаў дахаты шпарка…
*А ў хаце – якая запарка?! –*
Кадушка капусты стаіць!
*(От! можна да смерці жыць!..)*
Дзед з бабай паелі зноўку…
Прытуліўшы да дзеда галоўку,
Бабка, бы незнарок,

Кажа: "Мілы дзядок!
З'сздзі яшчэ да катка,
Катка – залатога лабка;
Можа, падкіне нам сала..."
"*От!* бабка, ўсё табе мала!"

Узяў дзядок тапарок,
Паехаў у родны лясок;
Стукнуў ціха ў дубок…
*Выскачыў* мілы каток,
Каток – залаты лабок:
Вушка адно – залатое,
Срэбненькае – другое;
Золата-срэбна шарсцінка,
Золата-срэбная спінка;
Золата-срэбныя лапкі:
Лапкі, лапкі-царапкі!..
"*Божа!* Ад дзеда-мальца
Хоча бабка *сальца?!* –
Смяецца каток ад душы. –
Ты, можа, *спіс* напішы:
*Што* нашай бабцы трэба?!.."
"*Не-е-е!* Засмяецца неба…"

Паехаў дзядок дахаты…
Глядзіць: у хаце багата
*Сала* ў кубёлку ляжыць…
"*Ну,* можна да смерці жыць! –
Сказала шчаслівая бабка. –
І сала ёсць, і аладка…"

Дзед з бабай і сёння жывуць:
*Хлеб-сала*, капусту жуюць…

*Вось вам*, дзетачкі, казка;
*А мне* – абаранкаў вязка!

*20/26.05.2003.*

---

* Патоля – *поблажка,* – ***удакл. аўт.***

## КУРКА-РАБКА

Жыў сабе дзед, жыла бабка;
І была ў іх курачка-рабка.

Нанесла курка яечак –
*Аж* повен-поўны падпечак!
Ды нешта бабка старая,
Бы дзеўка тая малая,
*Сабрала іх*
*у* чарапіцу,
Паставіла на паліцу…
А тут, аднекуль са склепа,
Шукаючы лусту хлеба,
Выбегла шэрая мышка,
Белая грудка-манішка;
Хвосцікам як махнула –
Яйкі бы ветрам здзьмула:
Упалі яечкі ніцма, –
Пабілася чарапіца…

Плача *дзядок,* плача *бабка*;
*Курачка* нема кудахча;
*Вароты* равуць-скрыпяць, –
Аж *трэскі* ў бакі ляцяць;
*Сарокі* трашчаць-балбочуць;
*Гусі* крычаць-лапочуць;
*Сабакі* шалёна брэшуць:
Быццам *лязом* іх рэжуць…

*Ну* хоць бы *хто-небудзь* змоўк!..
Ідзе міма шэры воўк…
Пытае: “Дзядочак! Бабка!..
*Гэй, ты!* курачка-рабка!..
Чаго вы плачаце? Божа!..
Не трэба раўці! Нягожа!..
Майце вы розум!..”
А бабка:
“*Ваўчок мой!* шэрая лапка!..
Была ў нас курачка-рабка;
Нанесла курка яечак
*Аж* повен-поўны падпечак!..
*У!-гу-у-у! Я* – баба старая!
(Бы дзеўка тая *дурная*!)
*Сабрала іх*
*у* чарапіцу,
Паставіла на паліцу…
А тут, аднекуль са склепа,
Шукаючы, мабыць, хлеба,
Выбегла шэрая мышка,
Белая грудка-манішка;
Хвосцікам як махнула –
Яйкі бы ветрам здзьмула:
Упалі яечкі ніцма, –
Пабілася чарапіца!..”
Паслухаў бабульку воўк;
*Узяў*... ды і сам зароў!

Толькі развыўся ледзь,
Бачыць: пляцецца мядзведзь.
Падыйшоў мядзведзь да ваўка,
Паглядзеў на яго з-пад ілба;
Прыладзіўся даць тумака…
Ды воўк апярэдзіў: “*Ба-а-а!*

Мядзведзь! Паслухай спярша!..”
“Расказвай, воўча душа,
Чаго ты разявіў рот,
Развыўся нібыта чорт?..
Калі ты равеш бсз прычыны,
Не сабраць табс костак-гліны!..
Не жыць табе, воўк, не жыць…”
“Ды як мнс, мядзведзь, нс выць?! –
Кажа спужаны воўк
*(А сам усё* слінаю – *“коўк!”)* –
Жылі сабе дзед і бабка;
Была ў іх курачка-рабка;
Нанесла курка яечак
*Аж* повен-поўны падпечак!..
Ды нешта бабка старая,
Бы дзеванька маладая,
*Сабрала іх*
*у* чарапіцу,
Паставіла на паліцу…
А тут, аднекуль са склепа,
Шукаючы, здэцца, хлеба,
Выбегла шэрая мышка,
Белая грудка-манішка;
Хвосцікам як махнула –
Яйкі бы ветрам здзьмула:
Упалі яечкі ніцма, –
*Пабілася чарапіца!..*
Плача – *дзядок (з ім – бабка!)*
*Курачка* нема кудахча;
*Вароты* равуць-скрыпяць, –
Аж *трэскі* ў бакі ляцяць;
*Сарокі* трашчаць-балбочуць;
*Гусі* крычаць-лапочуць;
*Сабакі* шалёна брэшуць:

Быццам *ваўкі* іх рэжуць!..
*І я* з усімі шалею!..
Ды гаўкаць-брахаць не ўмею;
*Ніхто мяне*
*не* навучыў;
*Таму* – я ўзяў ды завыў!..”

Прыкінуў мядзведзь свой узрост;
Ды адарваў сабе хвост…

*20.07.2003.*



# КОЦІК, ПЕЎНІК І ЛІСІЦА

Слухайце, дзеткі, казку маю:
Некалькі тысячагоддзяў таму,
Аблюбаваўшы хлеўнік,
*Жылі-былі* коцік і пеўнік…
*Добра* жылі, не тужылі;
*Дружна* жыццё любілі!..
Коцік – на паляванне хадзіў;
А пеўнік – дома абед варыў,
Хатку чысценька падмятаў,
Песні весела распяваў.

Аднойчы пайшоў коцік-каток
На паляванне ў бліжні лясок…
*А пеўнік* – ад гора-халеры
За ім зачыніўшы дзверы –
Пачаў паціху абед варыць.
*А тут...* Аднекуль лісіца бяжыць!
Убачыла ліска хатку,
Агледзелася для парадку;
Падскочыла да акенца
*І,* пачасаўшы каленца,
Пытае: “*Хто* тут *гаспадар*?!
Муха, мядзведзь ці камар?..”
“Я!” – кажа пеўнік мужна...
“Пусці мяне ў хатку, *дру-у-ужа!*” –
Просіцца ціха лісіца…

“Чаго табе не сядзіцца, –
Пытае пеўнічак, – дома?”
“*Ой!* узяла мяне стома!
Была я ў гасцях, ля рэчкі, –
Лісіца ў адказ. – у авечкі!..
Пусці адпачыць з дарогі!”
“Заходзь!” – кажа пеўнік строгі.
“Дадому ісці не блізка, –
Скардзіцца хітрая ліска,
Заходзячы *стомлена* ў хатку. –
Які ж ты, пеўнік, мой братку,
Добранькі!” – кажа ліска.
А пеўнік: “*Вось!* збожжа міска!..” –
Пачаў частаваць лісіцу…
А тая – *цап!* – у спадніцу! –
Панесла пеўня дадому
(Забылася нават на стому!..)
Певень – у пастцы-спадніцы –
Пачаў, як мог, галасіці:
“Коце, браце!
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы,
Па барах, па карчах,
Аж бярэ мяне страх!..”

*Пачуў* пеўніка коцік!..
Бо ён, пярэсты жывоцік,
Адышоў недалёка ад хлеўніка…
Прыбег, адабраў кот пеўніка
У хітрай рыжай лісіцы
(Пачасаўшы кіпці-нажніцы!..)
Завёў пеўніка ў хатку:
“Не знаеш ты, браце, парадку, –

Кажа каток. – лісіца
Хацела табой пажывіцца!..
Заўтра, як брызне ранне,
Пайду я на паляванне
Далей… Магу не пачуць
Твой крык… Таму, брац, будзь
Уважлівым…
Словам: *глядзі ж!*
Сядзі ў нашай хатцы бы мыш;
Не пускай *тую ліску* ў хлеўнік!”
“Не пушчу!” – кажа спужаны пеўнік…
І сябры, перастаўшы казаць,
Пачалі ладзіцца спаць…

Назаўтра, ледзь брызнула ранне,
Пайшоў *кот* на паляванне.
*А лісіца...* Ну, тут як тут!
*Зноўку* ўводзіць пеўніка ў блуд:
“А пеўнічак, мой галубочак!
А разумненькі мой лабочак!
Стамілася я без меры…
Адчыні, мой пеўнічак, дзверы!”
А пеўнік сур’ёзна: “Не-е-е!
Не падманеш ты больш мяне!”
“*Ой,* божа! *Што ж* мне рабіць? –
Плача ліска. – *як* далей жыць?!”
“*Што* з табой? – пеўнік цікавіцца. –
Няўжо табе *так* паміраецца?”
“*Ай!-ай!..* Хіба ж я маню?..
Пазыч мне, пеўнік, агню!..” –
*Просіць* ліска (нібы ў журбе!)
“Хм!.. Агню?.. Навошта табе?” –
Пытаецца ў ліскі певень
(Пачасаўшы прыгожы грэбень!..)

“Як *“навошта?..” У печы* паліць!” –
Не пакінула ліска зманіць.
“Не адчыню! – кажа пеўнік. –
Ты зноў уварвешся ў хлеўнік
І схопіш мяне…” – “Ды *не-е-е!*
Больш *не буду* хапаць цябе!..
Хрышчуся-малюся!.. *Во! крыж!* –
Ліска трошкі паслухала ціш. –
*Нават (глянь!)* прыламіла каленца!”
“Бачу! – певень глядзіць у акенца. –
Заходзь…”
*Адчыніў ён дзверы!*
“*Ой,* цяжка жывецца без веры!” –
Кажа хітра лісіца…
І зноўку – *цап!* – у спадніцу! –
Панесла пеўня дадому
(Праз шляхі буралому…)
Певень – у пастцы-спадніцы –
*Ізноў* пачаў галасіці:
“Коце, браце!
Мяне ліска нясе
У высокія горы,
У глыбокія норы,
Па барах, па карчах,
Аж бярэ мяне страх!..”

*Добра*, што верны коцік
(Коцік – пярэсты жывоцік!)
Адышоў недалёка ад хлеўніка…
Прыбег, адабраў кот пеўніка
У надта хітрай лісіцы, –
Пачасаўшы кіпці-нажніцы;
Прывёў пеўня дадому:
“Яшчэ раз кажу, бы малому, –

Мовіць пеўніку кот. –
Не будзь ты дурны як бот!
Вазьмі, запішы на паперы:
*"Не адчыняць ёй дзверы!*
*Ёй! – хітрай лісіцы!.."*
Будзеш ізноў у спадніцы!..
А я цябе ўжо не пачую:
Бо мушу ў вандроўку *другую*
Я заўтра ісці; *далёка* –
У лес, што не бачыць вока
(Нешта ў нашых лясах
*Звёўся* – і дзік, і птах…)
Я *далёка* іду паляваць;
Не змагу цябе чуць-адабраць
У гэтай рыжай блудніцы,
Зеленавокай лісіцы…
І гэта, браток, не лухта:
*Адчыніш ёй* – будзе бяда!"
"*Не!* – кажа пеўнік сур'ёзна
*(А сам – так глядзіць пагрозна!)* –
Больш я гэтай зладзейцы
Не адчыню!.." – "*Во! лейцы!* –
Кажа каток. – навяжы
*Вузлоў* на дзвярах: бы вужы,
Лейцы будуць пужаць,
Ад дзвярэй цябе адганяць…"

Назаўтра, ледзь брызнула ранне,
*Пайшоў кот* на паляванне
*У дальнія* дужа лясы…
*Ох!* як жа марудна часы
Бягуць для нашага пеўніка?
*Адзін ён* у сенах хлеўніка!..
Хоць *хто-небудзь слова б* сказаў!..

*(А вузлоў-такі* – навязаў!..*)*

Пад вечар, каля дзевяці
*(А можа – і дзесяці...)*
Як стала сонца садзіцца,
*Прыбегла* блудніца-лісіца;
*І*, хвастом віляючы, ціха
Распачала свае ліха:
"*Пеўнічак!* мой галубочак!
*Разумненькі мой лабочак!*
*Я* міма ішла; *незнарок!..*
Дай мне адзін вугалёк!"
"*Не!* – кажа пеўнік. – *не!*
Калі судзіць па мане
Учарашняй тваёй,
*З табою – адно неспакой!..*
Не адчыню табе дзверы!"
"*Хіба ж я прашу той веры?!* –
Кажа лісіца лісліва. –
*Праз* акенца *(вось і ўсё дзіва!)*
Мне вугалёчак падай..."
"*Праз акенца?..* Можна...
*Трымай*
Свой вугалёк!.." – кажа пеўнік
*(Забыўся пра дзверы! і хлеўнік!..)*
*Адчыніў* вакно...
*А лісіца –*
*Цап!* – ізноў у спадніцу! –
Панесла пеўня дадому
(Пад жахі маланак і грому!..)
Певень – у пастцы-спадніцы –
Пачаў, як бык, галасіці:
"Коцс, брацс!
Мяне ліска нясе

У высокія горы,
У глыбокія норы,
Па барах, па карчах,
Аж бярэ мяне страх!..”

*Доўга* пеўнік крычаў…
Ды толькі – *дождж* шапатаў
Па кронах таполь-бяроз…
Бо лёс палявання занёс
Каточка далёка-далёка:
У лес, што не бачыць вока…
Прыбегла лісіца дахаты.
“*Глядзіце! Во!* пеўнік смаркаты! –
Крыкнула сваім дочкам. –
Пакуль я схаджу за сыночкам
(Ды склічу *другіх* гасцей!)
*Вы, дзеці (от, дочкі! – смялей!..)*
Пачынайце ў печы паліць,
З пеўня крупнік варыць!”
Ды пабегла гасцей склікаць…

*А тым часам?* Кот паляваць
Закончыў. Вярнуўся да хлеўніка.
Глядзіць: *няма* яго пеўніка…
“Мабыць, яго ізноў
Ухапіла лісіца; дамоў
Завалакла... Як тут быць? –
Падумаў кот. – *мне ж?* Не жыць
Без свайго сябрука…
Пайду ратаваць блазнюка!..”
Узяў ён, крыху басістую,
Скрыпачку галасістую;
Пайшоў праз возера *(ўброд)*
Да ліскі. Сеў ля варот

І, ціха струны кранаючы,
Зайграў, прыпяваючы:
“Тылі-тылі, скрып*і*ца,
Тут сядзела лісіца.
А ў лісіцы
Новы двор,
Сем дачушак
На выбор.
Восьмы псўнік, –
Гэта мой!..”

А ўжо набліжалася ночка…
Пачулі лісіцыны дочкі
Надта прыгожыя песні,
Цвітуць – бы лён на прадвесні!..
Кажуць адна адной:
“Хто там прыйшоў з дудой?..”
“Не з дудой, а са скрыпкай!..”
“*Ах! пад музыку б – рыбкай*
Добра паласавацца!..”
“*От ты! красуня – цаца!*
*Рыбкі* ёй захацелася!..”
“*А я б – малаком* пад’елася…”
“*Нішто* ў голад не замінае…”
“*Паслухайце, як іграе!* –
Крыкнула лісянятка
Сёмае, бы дзіцятка. –
*Бяжым-паглядзім!..*”
*– “Бяжым!..”*
*“Не жыць жа мясам адным!..”*
*“Трэба – і музыкай жыць!..”*
*“Паспеем пеўня зварыць!..”*

Выбеглі дочкі лісіцы на двор:

*Сем дачушак – усе на выбор!..*
(Коцік – *усіх* зачараваў!..)
*Пеўнік жа? Певень –*
*ён – не драмаў!..*
Выскачыў ціха з лісіцынай хаты,
Пабег за катком…
А Месяц стракаты*
Указваў дарогу дадому ім:
*Пеўню, катку* – сябрам дарагім!

…А ліса? Засталася ні з чым.

*04/29.08.2003.*

---

* Стракаты – *такі, паверхня якога пакрыта ўзорамі, палосамі, плямамі розных колераў; рознакаляровы,* – ***удакл. аўт.***



## ШАПТУХА

*В. Д. Касмінка*
*В. У. Мясніковай*
*М. А. Мяснікову*

*А у перапёлачкі ды галоўка баліць...*
**З народнай песні**

*Надта хочацца ў вырай,*
*Мая белая лебедзь!..*
*Мая сумная лебедзь...*
**З песні на верш А. Сыса**

*Божая Мацер Неуталімая*
*Стаіць на новым месцы ў Ерусаліме:*
*З яснымі свячамі,*
*З горкімі слязамі...*
*Не плач, Маць Марыя!*
*Твой Сын на распяцці:*
*Ручкі-ножкі скаваны,*
*Кап'ём бок пракалаты...*
*Амін!*

*Жыла*, дзетачкі, ў вёсцы глухой
Дужа-дужа старэнькая бабка.
*Хаткі ў вёсцы* – адна пры адной:
Мо з дзесятак. Жылося *ўсім* зябка…
І на самым ускрайку сяла
Ціха бабчына хатка стаяла.
*Ой!* старэнькая хатка была,
Ну, як бабка! – ні многа, ні мала…
Ды знайшоўся мужык-чалавек,
Нарабіў гэтай хатцы падпорак.
Дажывала бабулька свой век,
Дажывалі з ёй дом і падворак.
Толькі встрычак дуне-дзьмухне,
Дом не знае, куды паваліцца.
Назбірае, нібы па вайне,
*Бабка* трэсак, знясе… у карытцы,
Ды падпаліць у печы сваёй;
Сядзе, грэецца перад агеньчыкам
(Гэта ж ведама, дзеткі: *старой*
Дык *і ўлетку* той холад каменьчыкам…)
Калі ёсць што пад'есці-папіць,
Бабка трошкі пад'есць ды нап'ецца…
*А няма...* Значыць, так мае быць;
Выйдзе ў двор, паглядзеўшы ў акенца…

1

Ехаў неяк праз тое сяло
Сыты пан; сутыкнуўся ён з бабкаю?
Ажно мову ў яго заняло!
Папярхнуўся, за макам, аладкаю…
Запытаўся: "*Хіба ж ты жыва?!*"
А бабулька: "Жывая, паночку…"
"*І што!* варыць яшчэ галава?" –
Пан забыўся, што хутка і ночку
Бог пашле на зямлю *(ў тумане...)*
Вылез з брычкі. Бабулька з запінкаю:

“Не ідзе тая смерць па мяне…” –
Ціха слёзка злілася з хусцінкаю.
“*Хм!..* А колькі ж табе ўжо гадоў?” –
Пан нібыта заняўся карэтаю;
Запытаў проста так, дзеля слоў…
“Я гадам сваім ліку не ведаю…” –
На пяску нейкі крыж *(ці то верш?)*
Бабка палкай сваёю выводзіла.
*“Матка боска! А як ты жывеш?!”* –
Пан глядзеў на бабульку як боўдзіла.
“*А-а-а!* якое маё ўжо жыццё? –
Бабка ветрык разбіла далоняю. –
Чым такое жыццё, лепш выццё
Па душы ваўкалака пад Поўняю!..
Як так жыць – у зямлі лепей гніць,
Хай бы чэрві ўжо цела забралі…
Я даўно не магу ўжо рабіць.
*Дзеці-ўнукі ж?..* Даўно паўміралі.
Гэта страшна, паночку: адна
Я цяпер, як былінка ў тым полі.
*Верыш:* спаць не магу; давідна…
Не дай божа *каму* такой долі!..
Невыносна адной паміраць.
Коцік Мурзік, як сонейка, чахне.
Няма *слова* каму мне сказаць.
Ды й самой ужо голадам пахне…
Малака наліла Сіма ў гляк.
Разліла я, частуючы коціка.
*Кот* падлогу мне вылізаў так,
Хоць ты – *замуж ідзі! за Хвядосіка!..*
Гора, гора!.. Ды кубка з вадой –
*Кх!* – няма каму ўрэшце паднесці…
Памажы, мой паночак, *старой*
Хоць *чым-небудзь*… Бог любіць па чэсці…”

*Пан быў вельмі* скупы, да зубоў;
Нс было ў свецс большага скнары
(Мо таму дзеўкі з розных краёў
Не хацелі жыць з панам у пары…)
Дуркаватым ён быў, да мяжы:
Бо душу мсў ад бога "зладзсйку…"
*Што Хрыстос яму той на крыжы?!*
Лупцаваў бізуном за капсйку:
"За *бульбоўнік* ідзі-заплаці!"
І вымаеш апошнія грошы…
Трэба ж неяк ісці па жыцці,
Плаціш, кажаш: "*Паночку* – харо-о-ошы!.."
Шкадаваў даць каня ці касы,
Нс дапросішся восснню лісця;
Шкадаваў *(хоць ты богам прасі!)*
Снегу ўзімку, зямелькі з-пад кіпця…

*Пан падумаў* і кажа: "*А-вой!..*
А чаму ж ты, старая, не шэпчаш?
Трэба думаць крыху галавой;
*І* гдядзіш, можа, цслам акрэпнеш?!
*Бяда-гора* паўзуць, як вужы;
Зарабі і на хлсб, і да хлеба.
Пашапчы, трохі паваражы;
Будзе грошай і маку да неба!.."
"Я нс ўмсю, паночку, шаптаць…" –
Бабка слёзанькі сцсрла нясмсла.
*"Варажы!"* – пачало *назаляць*
Пану бабчына ўсё гэта *"дзела"*.
"*Вой! не ўмею я* і варажыць!" –
Бабка спужана вочанькі долу
Апусціла; стаіць і маўчыць…
Пан раптоўна дайшоў да прыколу…
"Ну, дык слухай, *бабанька* мая! –

Кажа пан; *сам жа* ледзь не рагоча. –
Ты мне будзеш адсюль як радня;
Навучу цябе *шэптам* прарочым!"
"*Навучы!* мой галубе-панок!..
*Навучы!* каб я ў свеце дарэмна
Не займала жыццёвы куток.
*Мо* хоць трошачкі стану патрэбна!.." –
Бабка свеціцца сіняй красой;
Вочкі сталі нібыта вазёры:
У якіх *(вой!)* адна за адной
Мыюць лебедзі белыя пёры…

*Пан быў вельмі* ахвочы да спраў,
Ад якіх, думаў, пахне лухтою…
Нахіліўся ён і зашаптаў,
Ледзь трымаючы смех за душою…
Бабцы ў вуха дыхнуў перагар:
"Як паклічуць цябе да нямогі,
Тройчы хукні ты хвораму ў твар;
І шапчы, і шапчы да знямогі:
*Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не*…
Пашапчы гэтак трохі; ды дай
Яму выпіць вады *(і ўсё дзіва!)*
Хоць бы з гэтай бутэлькі; *трымай!* –
Пан падаў бабцы бутлю з-пад піва. –
Бяры смела бутэльку; *дапіў!* –
Пан раптоўна (ну, *не* па-зладзейску!)
За прыколам зусім падзабыў,
Што за бутлю здымаюць капейку. –
Так шапчы хоць да самай зары;
Варажы!.. *Хворы* – і ачуняе.

Калі ж – не... *То сіголаў бяры*
*Яго сэрца!*
*Бо – чорт* яго знае!..”

*Тут раптоўна* з нябёсаў сышлі
Гром з маланкаю: непадалёку
На зямлі запалілі камлі…[1)]
Пан завыў, быццам бусел заклёкаў:
*“На, бабулька!.. Бяры!.. Ну, хутчэй!..”*
*“Што?!”* – старая глядзела няўмела;
Толькі слёзкі крыжамі з вачэй…
Пан нагамі дрыжэў на ўсё цела:
“Я хацеў іх пакінуць сабе…
Сёння ў друга ўзяў нейкія сшыткі я…
*Бабка друга... З труной на чале!..*
Іх *табе* адпісала… *Вой! брыдкія!..”* –
Пан пакідаў паперы на дол;
Як вар’ят паляцеў за кібіткаю:
*Конь* упудзіўся!.. Быццам арол
Звозіў мак ды аладкі з напіткамі
(Паляцеў пан, не чуючы ног:
*Ні сваіх;* і ні конскіх, тым болей;
Яшчэ доўга ён выў: нібы ў рог
Нехта дзьмуў над чыёйсьцсю доляй…)

*Бабка сшыткі* знайшла на зямлі:
На цвілой і пажоўклай паперы,
Быццам слёзы, як вішні цвілі
Сонца ў крузе і сінія дзверы.
У сярэдзіне сонца было
Напісана чырвоненькім: “Шэпты”.
*У бабулькі* з душы адлягло:
“І чаго ён папёр, дурань гэты?
*Што тут страшнага* – ў кніжцы старой! –

Бабка позіркам светлым праводзіла
Ногі пана. – паночачку мой!
Дзякуй шчыры *(хоць нейкі ты – боўдзіла!..)*
Што бабульцы старой дапамог!..
*Мо* заробім мы з Мурзікам хлеба…
Барані цябс, пан, белы бог!” –
Бабка, крыж адаслаўшы да неба
*(А таксама паночку наўслед!..)*
Ціха ў хатку пайшла, – разглядаючы
*Дзіва-дзіўнае* – кніжачкі свет…
Бабка йшла, нешта ўслых напяваючы
(І лунали на твары яе,
Між глыбокіх маршчынак-разорак,
*Радасць-шчасце* – вясёлкаю ў сне;
Ды астральнай усмешкі пагорак…)

2

Вельмі скора *(дзён, можа, праз тры)*
Па ваколіцы *пырскнула* чутка,
Што *ў дзярэўне*, у нейкім двары,
*Бабка* лечыць усіх вельмі хутка…
Без праблемаў залечыць *усё*,
Тройчы хукнуўшы ў нос ці то ў вуха…
Стала клікаць *старую* сяло
Не інакш, як *“бабулька-шаптуха”*.
*Так* умес яна варажыць,
Што сяброўкаю нават з жывёлаю…
Калі нехта стаміўся ў жыцці,
*Расквітнее* вясёлкаю кволаю!..

Прыйдзе к бабцы якісьці паэт,
Плача: “*Свет мне:* абрыдлы, варожы!
Недзе лётаю ўсё між планет.
*Ой,* бабулечка!.. *Мо* паварожыш?!

Каб я трохі *на хлеб* зарабіў,
Не цураўся ніякай работы!.."
Бабка кажа: "*Вой!* сынку: падзіў
У цябе. Ну, дык *скідвай жа* боты;
Ды кладзіся на ложак *(вох!-вох!)*
Ці не мне, хлопчык, ведаць той голад?..
*За "Падзівам" я?.. "Перапалох"*
Пашапчу… Будзеш *смелы,* як волат:
  Мужчына пад шапкаю,
  Жанчына пад хусткаю,
  Малец пад капялюшом,
  Дзяўчына пад касою! –
  А ты, Божа Мацер,
  Прашу-малю,
  Пасоб-памажы, –
  Памілуй! –
  Ідзі, паэтаў падзіў,
  На сухі лес!..
Зараз, хлопчык, кашульку сваю
Задзірай: мне патрэбны жывоцік...
З хлеба, з мякішу, шарык зраблю,
Пашапчу; *шарык з'есьць* мілы коцік:
  Качаю пярэпалах:
  Бацькаў, мацярын,
  Курыны, кашэчы,
  Сабачы, чалавечы
  І ўсякі!..
  І з паэта сыдзі,
  На сухі лес нападзі! –
  А ты, Божа Мацер,
  Прашу-малю,
  Пасоб-памажы,
  Памілуй! –
  Ідзі, паэтаў пярэпалах,

На сухі лес!..”
Так пашэпча яна разы з тры;
Паплюе *“цьфу!-цьфу!-цьфу!”* ндзе ўлсва;
Дасць вады… І гарыць на гары:
І любоў, і надзся, і вера…
І паскача падбіты паэт
Зарабляць так патрэбныя грошы;
І забудзе палёт між планет:
Стане ўсім ён *мужчына* харошы…

Прыйдзе ціха кабета ў журбе.
Кажа: *“Вой! нешта* тузае ў шыі;
А яшчэ, мабыць, грыжа ў спіне?
*Свет гарыць...”* – “Чалавечак мой мілы! –
Кажа бабка. – *Сядай! во,* на ўслон!..
Пашапчу ■ *“Ад зобу”* і згіне…
*Бог харошы:* шкадуе нас ён…
Мо і грыжа, дай божа, пакіне:
  На сінім небе ангелы гуляюць,
  Прастолы засцілаюць;
  Вальчыну душу ўспамінаюць,
  З шыі зоб вынімаюць:
  Ідзі на дрымучыя лясы,
  На жоўтыя пяскі, –
  Там ангелавы сёстры
  Сталы засцілаюць
  І з шыі зоб вынімаюць…”
Так пашэпча яна шэсць разоў;
Возьме нітку: абцягне, мой божа,
Тую шыйку; дванаццаць вузлоў
Вяжа-вяжа, варожа-варожа:
  “На сінім небе ангелы гуляюць,
  Прастолы засцілаюць;
  Вальчыну душу ўспамінаюць,

З шыі зоб вынімаюць:
Ідзі на дрымучыя лясы,
На жоўтыя пяскі, –
Там ангелавы сёстры
Сталы засцілаюць
І з шыі зоб вынімаюць:
Радзімы-хадзімы,
Паўзучы-бягучы,
Сіні-ніцы,
Ветраны-вадзяны,
Унутраны-верхавы,
Урочны-малочны! –
Усе дванаццаць выгаварвайцеся,
На нітку завязвайцеся!.. –
А ты, Божа Мацер,
Прашу-малю,
Пасоб-памажы, –
Памілуй! –
Ідзі, Вальчын зоб,
На сухі лес!..”
Пасля кожнага, значыць, вузла
Сплюне ўлева *(ну, так: тры разочкі!..)*
*Нітку тую* ля хаткі *(вугла!)*
Закапае на ўсе дні і ночкі:
Каб жа нітка *як зоб* загніла!..
*І ў жаночых вачах* – смех і ціша!
Пойдзе з хаткі ў той свет да святла:
Згіне зоб і няшчасная грыжа…

*Прыйдзе раптам* жанчына ў слязах,
Мовіць: “*Бабачка!* Дапамажыце!..
*Мой сыночак!* мой любенькі птах
*Зламаў спінку!..*
*Вой!* можа, Мікіце

Вы *майму* дапаможаце *як*?..
*Маёй любай* крыві-перапёлачцы!.."
*Бабка,* ўзяўшы ўсе шэпты ў кулак,
Павадзіўшы рукой па іголачцы,
Едзе шпарка да хворага; там
Пачынае шаптаць *"Ад удару"*:
Тры разы; тры разы па губах
Водзіць хлопцу *(і маці на пару!..)*
Пасля кожнага разу здзьмухне;
Тры разы не забудзецца-сплюне…
Хлопчык, быццам жаўрук па вясне,
Засмяецца на ўсе цуда-грудзі.
"Сам Пан Бог ехаў на сівым кані:
Па сініх нябясах,
Па высокіх гарах;
Конь спатыкнуўся,
Сам Пан Бог злякнуўся:
"Ідзі костачка ў костачку,
Жылка ў жылку,
Сасудка ў сасудку…" –
А ты, кроўка, ідзі,
Мікіткава цела не муці!
А ты, Божа Мацер,
Прашу-малю,
Пасоб-памажы, –
Памілуй! –
Ідзі, Мікіткаў удар,
На сухі лес!.."

……………………………………………

Павалілі да бабкі тае
І жанчыны, і хлопцы без ліку…
*(Хто разумны,* да бабкі вядзе

*І* кароўку: нібыта да быка).
Едуць нават з далёкай мяжы:
І нясуць, і вязуць ёй бясконца
Ежу, грошы… Ды хоць ты бяжы
Ад той смерці да сонсйка-сонца!..
Жыве бабка цяпер як у сне:
Шэпча, моліцца, ціха прарочa.
*Голад – знік! – быццам* у тумане…
*Бабка* больш паміраць і не хоча!..

3

*А тым часам?* Паехаў той пан
Не кудысьці, а на паляванне!..
*Дзень халодны быў;* пан, без заган,
За зайцамі ганяў да змяркання;
Ды крычаў на ўсё горла *"Ату!"*
Зграі верных сабак… Вось і села
Пану ў горле скула – на бяду:
Села так, што ссінела ўсё цела
(Гэта ж ведама, дзеткі: крычаць
Супраць ветру не трэба, не можна…
Сэрца богу паспеем аддаць;
Трэба йсці па жыцці асцярожна…)
Пану *смерцю* запахла ўсур'ёз…
Дактароў назбягалася розных…
З-пад Масквы нават нехта прывёз
Членаў-карэспандэнтаў сур'ёзных…
Дактары толькі *віны* жаруць…
І ніхто з іх не можа даць рады
Той скуле… *Пан жа ўжо* і дыхнуць
Не ўмее; адно шэпча: "Га-а-ады!.."
А скула ўжо і душыць яго…
*Пана друг* закрычаў:
"*К чорту скруху!..*

Трэба клікаць бабульку! *І ўсё!..”*
*Пан жа,* знаючы тую *шаптуху*
*(Як ён некалі бабку вучыў*
*Варажыць)* нават слухаць не хоча…
*Грому пан* аніяк не забыў:
“Бабка, мабыць, маланкай прароча?!” –
Пан адзіны варушыць запеў:
У мазгах *(дзе адно толькі – сала!..)*
Так цярпсў ён, няшчасны, цярпсў,
*І, нарэшце,* як моцы не стала,
*Пагадзіўся* бабульку пазваць…
*Бабку мігам* да пана прывезлі.
Пан ёй кажа: “Матулечка!.. Маць!..
Паміра-а-аю!.. *Вой!* дыхаю ледзьве!..”
Тут давай наша бабка ўсур’ёз,
Ледзь разуўшы ў дзвярах свае ногі,
*Пану ў твар (зубы, горла і нос!)*
Хукаць-хукаць, шаптаць да знямогі:
*“Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не…”*

*Як пачуў пан*, што бабка пляце
*Яму тое*, чаму дзеля жарту
Ён яе навучыў па вясне?..
Усміхнуўся… *Старая ж* – знай карту
Раскладае *сваю*… Як казаў
Сам паночак: “Шапчы да знямогі!..”
Ажно смех пана апанаваў;
Хоць бяжы, не пазнаўшы дарогі!..
Бабка шэпча і шэпча – як след;
Гэтак шпарка, што нават здасцца,
Той сіголаў, гандляр ці паэт,

Зараз – *тут!* (ці ўлезе ў акенца?!):
“*Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не;*
*Сіголаў жыў, сіголаў не...*”

*Слухаў-слухаў* бабулечку пан;
А затым раптам як зарагоча!..
Дык усе дактары *(п’янню-п’янь!)*
*Працвярэзіліся* – хто як хоча!..
Адзін доктар *(ну, карэспандэнт!)*
Заспяваў, быццам перад манархам:
“*Божа!* Бабку храні!.. *Прэзідэнт*
Наша бабка!.. *Касандра з размахам!..*”
*А другі... (ну, таксама адтуль –*
*З-пад расейскай сталіцы!)* заенчыў:
“*Бабка! Бабка!.. Я* – кругленькі нуль!..
*Перад вамі!..* На сэрцы – парэнчы!..” [2)]
Кожны доктар спяваў ці шаптаў
*Хоць што-небудзь*
*(“Чаму?”* – вы спытаеце…*)*
*Проста ў пана*, як зарагатаў,
*Скула* лопнула!.. *(Вось вы і знаеце*
Усю праўдачку, дзеткі… Скулы –
*Там! у горле* – ну? як не бывала!..)
*Пан ачухаўся!* Стаў, як радні,
Бабцы дзякаваць: “*Адратава-а-ала*
Ты, бабулька, ад смерці мяне!..
Значыць, лечыш *ты – так;* ад сустрэчы,
Як цябе я вучыў па вясне?”
“Так, паночку...” – *ах! не* па-старэчы
Засмяялася бабка; ў душы
Быццам ззяюць той мудрасці зліткі…
Пан падумаў і мовіць: “Скажы,

А дзе, бабка, падзела ты сшыткі?"
"*Вой!* Якія, паночку?!" – ў вачах
У бабулькі спакой; ды вазёры,
*У якіх бусел* – велічны птах –
Мые дзюбку і чорныя пёры…
"*Сшыткі?!* Тыя, што я табе даў!" –
Пан глядзіць падазрона-убога.
"*Ах, вось тыя!..* Дык іх зруйнаваў
Гром з маланкай!.. *Туды* ім дарога!..
Так гарэлі, нібыта святло, –
Кажа бабка, – з *нябёсаў* шугала..."
"*Ясна!* – ў пана з душы адлягло. –
Тая кніжка мне нерваў *нямала*
Пакруціла… *Ды чорт на яе!..*
Слухай, бабка, тут чуткі гуляюць:
*Ты – адгадваеш;* праўда ці не?"
"Ды як прыйдзецца; *ў небе* ўсё знаюць…" –
Кажа бабка… Як *за* небакрай
Пану ў вочы глядзіць, ды лунае...
"Дык давай, – просіць пан, – адгадай,
Што душа мая *зараз* рашае?.."
Усміхнулася бабка сабе:
"Цябе, пане *(даруй)* шашаль точа:
Заплаціць мне за шэпты ці не?"
"*А няхай цябе качка затопча!* –
Пан рагоча. – *ну, як жа! скажы?!*
*Ты даперла?!"* – "Ды кожны ўгадае,
Хто жыве, мой панок, па душы! –
Бабка ўсмешкай бы сонейкам ззяе. –

Гэта, пане мой, кожны ўгадае,
Хто цябе хоць бы трошачкі знае…"

*02-08.10.2003.*

---

[1] Камлі – *стволы деревьев,* – ***удакл. аўт.***
[2] Парэнчы – *надрезы,* – ***удакл. аўт.***



## АМІН, КАРОЎКА, АМІН!

Ж ы д

*Дай, бог, майму дзіцяці*
*Розуму наперад,*
*А мужыцкаму –*
*Ззаду!..*

***З народнага***

Ці то Поўня скакала: *“Гоп-гоп!..”*
Ці то Месяц свяціў напалову…

*А ўкраў* неяк тоўсты поп
У адной жанчыны карову...
Ды завёў небараку *ў свой* хлеў…
Усю ноч поп хадзіў ды дзівіўся:
Як жа ён, крадучы, не самлеў…
“Што тут дзіўнага? *Богу* маліўся! –
Усміхнуўся таўшчэзны святар.
І пад раніцу, ўжо засынаючы. –

Барані ты мяне, мой *аўтар*,
*Заўсягды!..*" –
*так* сказаў, пазяхаючы...

*А тым часам* – як толькі ўзышло
Той жа раніцай цёплас сонца;
Толькі певень расправіў крыло;
Толькі поп, так стамлёны бясконца
Ад учынснай ноччу бяды,
Захрапеў з насалодаю звера
Між пярынаў, падушачак... *ды*
Нейкага іншага пер'я, –
*У той час?..*
На ўскрайку сяла
Жанчыначка забедавала:
"*Ой!* адна кароўка была!
*Адна-а-а...* І тая *прапа-а-ала!..*
*Ой! ты, бо-ожа мой!..* Што ж мне рабіць?!"

Так крычала яна, галасіла;
*Быццам смерцю* запахла: *не жыць!*
(З пахам смерці ўзрываецца сіла.)
Назбіраўся сялянаў натоўп...
Як бы вам не было тое дзіўным,
А прачнуўся, прыбег нават поп;
І з прасоння, словам наіўным,
Заспяваў той жанчыне на вуха:
"*Ну,* не верне карованьку скруха!..
Не шкадуй, маладзіца, грошай...
*Будзь заўжды праваслаўнай – харошай!*
Закажы малебен...
*Дасць бог,*
*Можа знойдзе* кароўка парог!.."
*(Што ж параіць пасля граху?)*

Прадала жанчына, што мела.
Сабрала грошай крыху…
Прыйшла да папа нясмела…
Заказала малебен…

*А дзяк?!*

Яшчэ больш пахуднеў ад злосці:
"*Ну, як жа?! Ну, як жа так?!*
*Мы – абодва* з ім *"ягамосці!.."* [1)]
*Што ж, ён – поп!..* і карову ўкраў;
І яшчэ з недалёкай дзеўкі
За малебен капейку ўзяў!..
*Мне ж* – толькі спяваць прыпеўкі?!"

*Зайздросна* дзяку, *да слёз*…
Прыйшоў да папа ён і кажа:
"*Святы божа (ад вербных лоз!)*
Сваіх служкаў *пароўну* мажа!..
Падзяліся, бацюшка мой,
Хоць бы тым, што ўзяў за малебен;
*Нам – адзіны* ў свеце сувой… [2)]
*Я ж – таксама* богу патрэбен!.."

Паскробшы высокі лоб:
"*Не-е-е,* мой дзяча, – адказвае поп. –
Гэта, брат, толькі *мой* даход...
Так што думай, друг, напярод:
*"Чым"* і *"як"* зарабляць на харчы!.."

*Вядома:* папоўскае вока
(Крычы тут; ці не крычы)
Што воўчага горла спёка…
*У папа, кажуць,* дзве рукі:
*Адна* – што хрысціць; *другая* –

Што бярэ, –

*нават, снегам мукі.*

(А той, што дае?.. такая
Рука невядома папу!..)

*Ну,* значыць – пачаўся малсбсн.
Тут дзяк *(аж на ўсю царкву!)*
Узяў-заспяваў па патрэбс:
"Маладзіца маладая,
Твая кароўку жывая:
У паповым хляве
Раве-е-е!.."

*Бачыць поп:* нс прайшоў яго сказ;
*Трэба! трэба дзяліцца з дзякам!..*
Ён і грымнуў дзяку ў адказ –
Праспяваў ад душы, са смакам:
"Маўчы лепш, дзяча,
Будзе і табе ўдача:
Падзелім каравіну
Напалавіну-у-у!.."

Як пачуў *тое* злосны дзяк?..
Злосці ў сэрцы – як нс бывала!
Узрадаваўся няўзнак,
*Заспяваў* – быццам з'еўшы сала:
"Святы божа! Святы божа сын!
Памяні бабіну кароўку... Амі-ін!"

*10.01/23.04.2004.*

---

[1] Ягамосць – *Яго Вялікасць,* – ***удакл. аўт.***
[2] Сувой – *сцежка,* – ***удакл. аўт.***



## ЯК ПОП МАЛІЎСЯ...

1

Пачалі поп і дзяк
Абедню служыць
(Справа была ў нядзелю…)
Што ім, набожным,
Яшчэ рабіць?!
Каб бабы, то пралі б кудзелю!..
А так? Стаяць,
Бы пні , у царкве:
Поп – кадзілам махае;
Дзяк, аднавіўшы
Псалмы ў галаве,
На клірасе *песні* спявае...

А слухаць служкаў
Няма каму:
Пустая царква *(і баста!..)*
Вось поп узяў
Ды зацягнуў
Да дзяка гусцейшым басам:

“Дзяча, дзяча,
Стары няўдача!
Годзе табе
Казлом бляяць,
Годзе
Святых пужаць!..
Палезь ты, дзяча,
На званіцу высокую,
Паглядзі
На дарогу далёкую:
Можа,
Хто ў царкву ідзе,
Можа,
Што папу нясе...”

Палез дзяк
На званіцу высокую.
Паглядзеў
На дарогу далёкую.
Паглядзеў
                і адказвае –
Бы *псалом* пераказвае:
“Бачу, бацюшка, бачу
Добрую ўдачу:
У царкву
Баба Антоля ідзе,
Пад пахаю
Пеўня нясе!”

*Замахаў поп*
                вясёла
Кадзілам;
Аж *большым*
Вырас у постаці.

І заспяваў
*з усім пылам*:
"Падай, го-о-оспадзі!"

2

Памаліўся поп
За пеўня крыху,
Адпусціў тую бабу з мірам:
"Ідзі, раба божая,
*(Не ў граху!)*
Абнясу я пеўня паціраам,
І ўсё табе бог
Даруе наноў:
Я ўжо аб гэтым знаю.
Не забывай,
Да скону гадоў:
Праз *храм* дарога да раю!.."

І зноўку слухаць
Няма каму:
Пустая царква *(і баста!..)*
Ізноў поп
Узяў-зацягнуў
Да дзяка гусценькім басам:
"Дзяча, дзяча,
Стары няўдача!
Годзе табе
Казлом бляяць,
Годзе
Святых пужаць!..
Палезь ты, дзяча,
На званіцу высокую,
Паглядзі
На дарогу далёкую:

Можа,
Хто ў царкву ідзе,
Можа,
Што папу нясе…”

Палез дзяк
На званіцу высокую,
Паглядзеў
На дарогу далёкую.
Паглядзеў
 і адказвае –
Быццам *псалмом* указвае:
“Бачу, бацюшка, бачу
Благую ўдачу:
П’яны
Антолін мужык ідзе,
Сам сабе
Пад нос гудзе,
Нясе ён
 дубіну
На папову
 спіну!”

*Замахаў поп*
 у страху
Кадзілам:
Аж *меншым*
Зрабіўся ў постаці!
*І заспяваў*
 *з меншым пылам:*
“Табе, го-о-оспадзі!..”

*24.04.2004.*



## ДЗЯК – БЛАГІ СПЯВАК

Служыў у царкве
Недарэчны дзяк:
*Быў ён* –
Благі спявак…
(Хоць даў бы яму
Хто-небудзь параду,
Што ў песнях яго –
Ні складу, ні ладу…)
Бывае, як заспявае
Казліным сваім галаском,
*Паства* стаіць – не знае:
Спяваць ці плакаць *(кругом!..)*
Хоць бога бяры-зневажай
Ды з той царквы... уцякай!

Аднойчы вырашыў
*Мудры* дзяк
Паказаць сябе
Як мастак!..
А гэта ж – вядома:
Залішне старацца –
Загнецца любая,
*Кожная* праца!..
Спявае так дзяк, спявае:
Жаласна *(быццам – паэт!)*
І ўсё на людзей паглядае:

Слухаюць песні ці не?..
Аж бачыць: стаіць сівенькі дзядок,
На клірас ільє – *слёзаў паток!*

Узрадаваўся
Ашалелы дзяк;
Думае: "*Вось* які я
Божы спявак!..
*Гэта ж* – песняй сваёй
Старога дзядка
Я так расчуліў!
Ага!.. *Ага!*
Трэба мне пастарацца
*Болей*... Спяваць як след!
*Ох!* і нялёгкая праца...
Ведаў бы ты, мой дзед!.."
І давай, да цемры з вачэй,
*Зацягваць! – дзяк! – танчэй!..*

Скончылася
Абедня... Вось
Дзяк, прыкуты
Славай наскрозь,
Падыйшоў да дзядка,
Пытаецца:
"Чаго табе, дзед,
Так маецца?
Чаму ты, *старэнькі,*
*Слёзкі* сёнияка ліў?..
Няўжо, мой мілы-міленькі,
*Я песняй душу* разбудзіў?!
*Адказвай!* Хопіць слязьмі
*Клірас* мыць... *Ну,* кажы!"

“*Ай, дзяча!* –
Кажа *стары.* –
Маўчы…
І *не* гавары!..
Як жа было мне
Сёння не плакаць?!
Я ж – чалавек,
Ні нейкая *бяка*!..
Душа твая, дзяча,
*Так* сёння спявала!..
*Я ўспомніў*
*няўдачу*:
Як летась бляяла
У лесе мая каза –
*Козачка-дзераза!* –
Калі на ўзбярэжжы ракі
Душылі яе ваўкі…”

*09.05.2004.*





## УПАРТАЯ ЖОНКА

Вось ужо лета:
Гудуць камары;
Жабы, сяброўкі паэта,
Крумкаюць смачна;
Недзе ўгары
Кружаць буслы на паўсвета.

Летам у вёсцы
Весела жыць!..
Дык і работы да злосці:
Поле засеяць,
У печы паліць,
У хаце паправіць штосьці…

У гаспадарцы
Мудрая *жысць*
Вас не пакіне без працы!..
Бабе – у хаце
Штотыдзень рабіць;
Мужчыне – на сенажаці…

……………………………………

Косіць ён сена:
Добра, як след
*(Трава ж? Яна – па калена!..)*

Прыносіць мужу
Жонка абед.
Прысеў мужык на палена;

*Сядзіць сабе,*
мажа
Масла на хлеб.
*А жонка?..* Спакойна-важна
Пракос
Агледзеўшы без патрэб,
Да мужа бярэ ды кажа:
"Ну, і работа… Ыгы!.. Ага!..
Вось жа скасіў – *як выстрыг!..*"
У мужыка ўздрыганула рука,
Вырваўся *з галавы ўздых*:
"Не выстрыг, а выгаліў. *Ты ж паглядзі?*
*Чысты* пракос – *бы шчака мая*;
Усё падабраў; усё на мазі:
Ніводнай травінкі нямашака…"

"*Хе!-хе!-хе!* – смяецца жана. –
Не выгаліў! *Выстрыг!* плямы
Усюды, паўсюль!.. Яшчэ і віна
Прасіў прынесці-ка з крамы!..
*Не дам!..*" – "Не трэба, – кажа мужык. –
І без віна я стаміўся…"
*А жонцы – ўсё роўна!* Ужо і на крык
Голас яе *раздабрыўся:*
"Выстрыг! Выстрыг! – крычыць яна. –
Не здольны ты, друг, да працы…
Мабыць, *адна* мне доля! *адна* –
*Да смерці* з табой гараваці!.."

Трэба заўважыць:
Была яна
З тых жонак, якія ўважыць
Мужа не могуць:
Такім “вайна”
Усё, што ні ёсць, псраважыць;

Была тая баба
З разраду баб,
Што здольны крычаць не слаба;
Ім жа мужчына –
Ёлупень *, раб, –
*Ну,* невыносная храпа;

Жывуць яны ўпарта:
Крыкі ды гам
Ім самая верная карта;
Заўсёды пярэчаць
Яны мужыкам –
Варта яно; ці нс варта!..

*Ды муж* – узлаваўся:
“Як гэта так?!
За што ж я, божа, нарваўся
На *бабу* такую?
*Хіба ж я* лайдак?!
Касіў, да жыл намагаўся;

Няўжо ўсё будзе,
Як хоча жана?
*Людцы!* мае ж вы людзі!
У чым жа мая,
*Скажыце,* віна?!..
Ну, хопіць! *Стаміліся* грудзі...”

“Не выстрыг, а выгаліў, – буркнуў мужык.–
*Во, ляж! Пракос* – і не колецца…”
А жонка: “Выстрыг!” – раве…
    І крык
Пайшоў аж па ўсёй наваколіцы:
“Выстрыг!”
“Выгаліў!”
“Ха!-ха!-ха!..
Стрыжана!”
“*Голена!* баба!..”
………………………………………………
Спрэчку чулі
Двор і страха,
Певень ды курачка Раба…

*Усе* чырванелі
Ад сваркі людзей
*(Нават*…ніткі кудзелі!*)*
А муж і жонка
*(Што ўжо прасцей?!)*
Да згоды прыйсці не хацелі.

*Жыць – не нажыцца!..*
Ды баба ўзяла,
Пабегла са злосці тапіцца
*(…Балазе рэчка*
*Блізка* была;
*А то б* – “вязала” спадніца, –

Калі ляцела:
*Сабе ж на бяду!..)*
Прыбегла… ўскочыла целам
Па самыя вушы
У тую ваду;

І ўсё крычыць ашалела:
"Стрыжана!
Стрыжана!..
*Гі!-гі!-гі!..*"
"*Голена!* жонка!
Голена!.." –
Падбягаючы да ракі,
Раве мужык…
                                        Разнявольена,

Хто не паснулі,
На гэты крык
Сяляне прыйшлі,
Як пачулі,
Аб чым *гамоніць*
З бабай мужык?
Скруцілі *абодвум* дулі

Ды са смехам
Распачалі
Падбухторваць рэхам:
"Будзь мужыком!..
*Баба!* валі
Яго да канца!.." *(Пацеха!)*

*А жонка* – схавалася
Ўжо з галавой
У рэчцы *(зусім* не спужалася!*)*
Крычаць ёй – нельга;
*Дык над вадой –*
*Глядзь! – і паказалася*

*Пальчыкаў* пара
*І – стрыг!-стрыг!-стрыг! –*

(Маўляў, стрыгу!) –
*вось кара*
Табе, мужычок!..
*А мужык – як бык! –*
Упёрся *(ажно йдзе пара!)*

Упаў на калені: крычыць, раве,
Б'е кулаком па зямлі, траве:
"*Не-е-е*, мая жоначка!
*Сёння – знаю:*
Здаецца,
*Я* цябе *пераспрачаю!..*"

*Так яно*, кажуць,
Усё і было.
*Калі... з вадою*
*Той* не сплыло.

*15/16.05.2004.*

---

* Ёлупень – *остолоп*, – ***удакл. аўт.***



## ЛЮДЗЕЙ СЛУХАЙ, А СВОЙ РОЗУМ МАЙ

Некалі жыў-пажываў
Дурнаваты адзін чалавек.
Між гаспадарчых спраў
*Быў ён* – калека з калек.
Бывала, дзень *(альбо тры)*
Ловіць ён сонца ў вадзе;
Ці возьме – з трэсак кары –
У хаце агонь раскладзе...

Захацелася неяк яму
Пайсці-схадзіць на кірмаш
*(Сумна* жыць аднаму...
*"Жонкі ж... яе – няма ж!")*
Злавіў ён (тры дні лавіў!)
Белага пеўня – як снег.
Трохі над ім павыў,
Сціраючы слёзы з павек;
*А ўранку* – засунуў яго
За пазуху; ды пайшоў,

Думаючы “пра сваё”
(Ажно закіпала кроў!..)

Думае: “Пеўня – прадам,
Куплю – *махоркі крыху!..*”
Яшчэ не дайшоў *(клянуся вам!)*
Чалавек да таго кірмашу,
А тут *ужо – глядзь!* – і купцы
Сустракаюць яго…
Ён ім кажа: “*Айцы!*
Купляйце пеўня майго! –
І дастае *(калека з калек!)*
З-за пазухі свой тавар:
Белага пеўня, як снег. –
*Певень* – дзяшовы!.. *Які навар?!*
*Дасцё мне* махоркі крыху… *І усё!*
Са жменю… *Ну, што? Па зубах?!*”
Бачаць купцы: чалавек – *ого-го-го!* –
Разумны не па гадах!..
Паглядзелі на пеўня яны;
Ды кажуць гаспадару:
“Які ж гэта певень?.. *Хіба ты* – дурны?!
*То ж – заяц!..* Пускай *у нару*
Яго, бедалагу… Да скону гадоў
*Будзе ён*

*успамінаць*,
Дзядзька, тваю Хрыстовую кроў!..
У бога!.. У дзеву-маць!..”

“Жартуюць, – думае дзядзька сабе, –
*Ліха ім:* тут і там!..”
Забраў ён пеўня, далей ідзе;
*Мацнеюць* крыкі ды гам.
“*Значыцца,* хутка кірмаш. *Ыгы!*” –

Вырашыў чалавек.
Прайшоў крыху... *Другія* купцы
*Ляцяць* – бы псўні з-пад стрэх!
"Што прадаеш?.. *Што прадаеш?!*" –
Крычаць, з абодвух бакоў...
"Псўня!.. *Пеўня! Махры – даеш?!*
*Паўжмені!..*" – дзядзька зароў.
Паглядзелі на псўня купцы,
Адказваюць:
"Што за дзень?..
Бульбоўнік у іх – сена капцы...
Заяц – певень...
Ты – пень,
Дзядзька!.. Калода... Зруб!..
Які ж гэта певень?.. Глядзі!..
То ж – заяц!.. Вачыма – луп!-луп!..
*Не лупаюць* псўні вачмі!.."

Прыгледзеўся лепш чалавек
І *сам* да псўня свайго:
"*А можа – і заяц?..* У гэты век
Не ведама, што да чаго...
"Не вер вачам", – так людзі гудуць;
Відаць, і праўда *(дальбог!)*
*Калі* ўсе вакол бы ў бубен б'юць...
Заяц – без пары ног..."

Прыйшоў ён на самы кірмаш.
Людзей там – пчаліны рой!..
Масла на хлеб намаж –
Пхнуць у гразь *(ці то ў гной!)*
Не паспееш куснуць
*Скібкі* той *дарагой!..*
*Там – у патэльні* б'юць;

*Тут* – ля крамы другой! –
*Косамі* звоняць…
*Усе*,
Кожны на ўласны гам,
Клічуць *(не па чарзе!)*
Пакупнікоў… *Бедлам!*
Гоманы – *"Эх!"* ды *"У-ух!"* –
Гудуць па ўсім кірмашы…
Ледзь чалавек не аглух:
Хоць ты дамоў бяжы!

Ачухаўся дзядзька крыху?
І сам
Пачаў распяваць-крычаць:
*"За-а-аяц! За-а-аяц!.. За гро-о-ош адд-ам!*
*Трэба зайцо-о-оў купляць!.."*

*На таннае што* – і разумны гад.
Збегся кірмаш чарадой.
Дзівяцца бабы: "*Свят!-свят!-свят!..*
*Певень* у вас пад рукой!.."
Ды чалавек стаіць на сваім:
"Заяц!.. *Я зайца* прынёс!.."
*Хлопцы – жартуюць:* пускаючы дым
Хто з люлек, хто з папярос:
"*Дзядзька – праўду* кажа!.. *А то?!*
Беленькі заяц!.. *Так!..*
То-о-оўсты… *Носа* ўжо не відно!..
*Раз'еўся* ў лесе, *лайдак!..*"

*Тут ужо* бедненькі дзядзька наш
Зусім паверыў, да слёз,
Што сёння ён на гэты кірмаш
Не певуня, а зайца прынёс…

І калі *хто*, падыйшоўшы купцом,
На зайца “певснь” казаў,
*Ледзь нават – не кулаком*
Яго чалавек *частаваў…*

*Хадзіў ён*, хадзіў ён па кірмашы
З пеўнем; і ўсё *(няўзнак!)*
Здавалася дзядзьку – *да дна душы!* –
Што гэта – заяц-бяляк…

*Ды – надакучыла* (лсдзь не да лап!)
Пеўню *з мужчынам* цягацца.
*Сонца* садзіцца… *Пара!* пара б
*На седала* ўжо збірацца!..
Залопаў ён крыламі: маш!-маш!-маш! –
Ды, ўзняўшы адну “нагу”,
Як закрычыць на ўвесь кірмаш:
*“Кхэ-э-э!.. Кук-ка-рэку-у-у!”*

*Пачуўшы гэта,* наш чалавск
*Зусім* з панталыку збіўся:
*“Заяц?.. А пеўнем спявае!..”* (Здзек!..
*Вось так… Хоць бы* – напіўся!)

*Выкінуў пеўня ён – проста ў гразь!*
Плюнуў пад ногі з палёгкаю;
Ды як пайшоў да хаты часаць!..
(*Я толькі* – зайздрошчу-крохкаю!..)

Праўду кажуць: *дурань не той,*
*Каго вы дурнем назвалі;*
*А той, хто сэрцам чужым (душой!)*
*Свае разглядае далі…*
*Хто* чужым розумам

Бачыць-жыве,
*У таго –*
*глупства*
Адно ў галаве…

Як хочаш,
Гэтую казку прымай!..
*Мяне –*
*слухай,*
*А свой розум –*
*май!*

*06/07.06.2004.*



## ДВОЕ СКУПЫХ

Прадаў цыган
На рынку каня,
Ішоў дадому *(у табар).*
Недзе выс
Ваўкоў гайня
(Дарога лягла праз явар…*)

Дзень быў халодны
*(Ветраны год!..)*
Моцна бярэ, працінае
Вецер цыгана, –
*Аж навылёт!..*
Ідзе цыган, памірае…

Тут па дарозе
(Паміж завей,
Што завываюць страшна)
*Едзе нехта...*
*Возчык-габрэй!..*
Цыган да яго і кажа:

*"Друг! падвязі!.."*
Той у адказ:
"Далёка, баця?.." – "Не вельмі! –

Смяецца цыган. –
Да вёскі "Намаз!.."
*Ратуй!..* Трэскаюць бельмы!.."

*"А колькі*
*за фурманку*
Мне дасі? –
Габрэй вылупіў зрэнкі. –
*Конь* – не казённы…
Хоць я ў гразі,
Ды ведаю *ўсе* расцэнкі!.."

"Дваццаць капеек! –
Цыган спакваля
Зарагатаў. – *не многа?!*"
"Не-е-е. Мала.
Давай рубля.
Не блізкая, баця, дарога. –

Пярэчыць цыгану
Возчык-габрэй. –
У вас, цыганоў вусатых,
*Грошай тых* –
Хоць вошамі прэй.
*Бач! ты, які пузаты!..*"

Таргаваліся,
таргаваліся;
*Сышліся* –
на паўрублі
(Абое
яны баяліся
*Грошы*
губляць па зямлі…)

“*Толькі* – грошы
Наперад… *Без слоў!* –
Кажа габрэй. – цыгане!
Скруціш потым…
Вас, цыганоў,
Ведаю я…” – “Па каранс?..” –

Спрабуе
Пажартаваць цыган…
Даў ён габрэю грошы.
Сеў на воз:
*Нібыта – той пан.*
*Стала... мацнець* пароша.

Праехаў трохі?
Яшчэ халадней
Стала цыгану: зубы –
“Стук!” ды “лом!” –
Пад *спевы* завей;
Аж! пасінелі губы:

“*Гэй!* друг!..
Ага!.. Угу!..
Вярні мне дзесяць капеск;
Я на грыўню
З вярсту прабягу!
Зусім *замёрз! анямею!..*”

“*Не-е-е!* – кажа
Возчык-габрэй. –
Дагаварыліся, баця,
*І – справе* канец.
*Твае мне* “гэй!”
Не прыбаўляюць багацця.

Хочаш прабегчы?
Бяжы сабе
На міленькас здароўс!
Мне ўсё роўна
*(Не ў галаве!)*
*Вось табе*, баця, выслоўс:

Думай, як хочаш?
*Хоць па злабе!*
Мне – да *звязды* Давыда:
Ехаць з табою
Ці без цябе…
*Клянуся* гонарам *Жыда!..*"

Не хоча цыган
*(Нейкі падзіў!)*
За возам *дарэмна* бегчы:
*Грошы ж –*
*за ўвесь*
*Прагон заплаціў!..*
Паспрабаваў ён легчы,

Схавацца вужакаю,
З галавой,
У паліто асенняе…
*Дарэмна ўсё!*
Лютай зімой
Маецца *ўсё* карэннае…

*Праехаў*
*яшчэ ён трохі*
Ды зноў
Да вазака-габрэя:
"Вярні хоць дзесятку;

*Сінее кроў!*
То холадам б'с, то прэе…

Пяць капеек?
Нс грошы – *дым!*
*Вярні!.. Ці верыш у бога?!*"
"Не. Не вярну!" –
Стаіць на сваім
Габрэй (чарнее дарога…)

Сядзіць цыган
На возе (што пень.)
*Ужо* – здубянеў
Як корч...
І ночка яму –
Нібыта дзень;
Дзянёчак –
Нібыта ноч…

*Зубоў* не чуе;
Маўчыць; клянс
*Ушчэнт* дарогу-зладзейку…
"*Вярні,* дружочак,
*Хоць бы* мне… –
Просіць цыган. – капейку…

*Божа!.. Злітуйся!..*
*Мо, ёсць* "Кагор"?..
*Ты ж чалавек* – харошы…"
"*Не-е-е,* – кажа габрэй, –
Дагавор,
*Ён* –
*даражэй* за грошы."

*І...*
не спусціў
Скупы габрэй
Цыгану
*ані капейкі;*
Яшчэ мармыча
*(Сярод завей!)*
Пра лёс
*няшчаснай габрэйкі!..*

Скупы ж цыган?
Так і не злез
З праклятага
воза габрэя
*Да*
канца дарогі…
*Тут лес*
*Ужо*
*за спіной* чарнее.

*Прывёз яго* жыд
У табар; спіхнуў
З воза, – як тую калоду…
Бо сам цыган –
*Нібыта* заснуў,
Забыўшы сваю пароду…

*10/11.07.2004.*

---

* Явар – *дрэва сямейства кляновых;* ***тут*** *– у сэнсе: “праз кляновы лес”, –* ***удакл. аўт.***



## ДОБРЫ ЗНАЁМЫ

*В заповеднике (вот в каком – забыл!..)*
***У. Высоцкі***

Выбралі ў нейкай вёсцы
Новага старшыню
(З радасці? Ці са злосці?..
Не ведаю: як каму...)
Чын не такі ўжо вялікі –
На сяле старшыня…
Ды як для каго?! Бо бзыкі
*Розныя* носіць зямля.

*Разумны* – на кожнай працы,
Як ты яго не круці,
Розуму не растраціць
*Ні па якім* жыцці...
*А дурань?* Як ён ні пнецца
(Хоць ты *царом* пастаў!)
*Дурнем* і застанецца, –
*Ад усялякіх* спраў.

*Словам,* пан Цырубалка
(Новы, значыцца, “бог!..”)
Заганарыўся шпарка, –
Ад галавы да ног:
Адпусціў бакенбарды,
*Гальштук* купіў дарагі…
*Галоўнае ж* – стаў упарты
Барацьбіт за правы!..
Закрыў незалежную прэсу
(Тую, што супраць улад!)
Каб жа ягоную *“мессу”*
Слухаў *“бязмозглы” брат,*
Зрэдку пан Цырубалка
*Капейку* даваў мужыку
(“Кіруюць і хлебам, і палкай!..” –
Дэвіз такі – на руку!..)
І ўсе хадзілі-баяліся
*Слова* супраць сказаць…
*Потым жа* – прызвычаіліся:
*Ніхто* не хацеў канаць…

*Так ён, бач,* ганарыцца,
Што зусім да яго
*Ужо* – і не падступіцца!
*Да п'янага ж?.. Больш* таго:
*Аблае!* – у круг, паўкругам!..
*Такі, значыць,* стаў кіраваць:
Як кажуць, даўжэзным крукам
І носа *ўжо* не дастаць!..
Бачыць ва ўсім крамолу;
Садзіць людзей у астрог…
Ніхто без яго дазволу
*Нават... дыхнуць* не мог.

*Сядзіць ён* неяк, сумуе
У канторы сваёй:
Без дай прычыны цікуе
За мухай адной, другой…
Да галаўнога болю
Думае, чым бы яшчэ
Яму праславіцца ўволю
*(Не воляю!.. Так сабе…)*
"Трэба адкрыць цырульню, –
Вырашыў старшыня. –
Увесці дэкрэт агульны:
"Вусы – як у *мяня!*"
А каб вусы не збрывалі,
Знізіць падатак на газ…
Вось і грашовыя далі,
Віно!.. *і слава* для Нас!"

З гэтай ідэяй мулкаю
На вуліцу ён зірнуў…
Аж бачыць: ідзе той вулкаю
(Ажно старшыня ўздрыгануў!..)
*Чалавек незнаёмы…*
*(Божа! ратуй!.. Атас!..)*
Ледзь старшыня да комы
Ідэямі не пагас…
"*Музыка! Альбо – паэта!* –
Калоціцца старшыня. –
Зняславіць жа на паўсвета!..
*Адкуль яна – тая* гайня!..
*Апрануты...* ў стылі *Гойе*;
Бязвусы; у піджаку…
Яшчэ напіша дурное…
*Бачыў я іх* на вяку!..
*Ох!.. чалавек* – падазроны:

Не малады, не стары;
*Так!* не панскай кароны;
*І* – не мужыцкай кары…
*Ідзе сабе,* курыць цыгарку;
*Пад ногі паплёўвае…*
*Да-а-а!*
Вось майму лысаму карку
І незадача… *Бяда-а-а!*”

“*Гм!* – рашыў Цырубалка, –
Трэба праверыць яго:
*Хто ён і што;* я з малку
*Не веру – ані ўва што!..*
*Тым болей – звярам двухногім!..*”
*Паклікаў ён*
*сакратара:*
“Слухай! *ты, бык бязрогі!*
*(Ажаніцца б – пара!* Пара!..*)*
*Бачыш* інтэлігента?”
“*Бачу!* пан старшыня!”
“Пазбаўлю на месяц рэнты;
*Душа мая* – шырыня,
Мора-*рака* бязмежная…”
*“Да-а-а!”* – пяе сакратар…
(Так і цякла б пацешная
Размова ў людзей, без мар…
Ды старшыня прыпомніў,
*Чаго* сакратар прыйшоў…)
“Сонца губляе промні…
У жылах чарнее кроў…
Спытай *у таго* “варэнніка”,
*Што ён* за птушка… Давай!
Мо, злодзея *(ці пісьменніка!)*
Занесла ў наш ціхі край?”

“Добра, пан Цырубалка!” –
Выпаліў сакратар.
І кулем кінуўся *(шпарка!)*
Выконваць загад…
“Мака-а-ар!
Толькі – праўду даложыш! –
Крычыць старшыня ў спіну
Сакратару. – я вожжы
Аслаблю! *не бойсь!..*”
– “У!-гу-у-у!..” –
Данеслася
*сакратарова.*

Дагнаў незнаёмца ён…
І кажа, – нібы карова,
Мыкаючы на варон:
“Наш новы!.. Пан Цырубалка!..
Новы, значыцца, бог!..
Ні нейкі снегір!.. Ці галка!..
Арол!.. Аб абедзьвух ног!..
Пытаецца: “*Што ты* за птушка?
Мо, злодзей?..” З якога канца?!”

…Паглядзеў, пачасаўшы за вушкам,
Прахожы на пасланца;
Адказвае: “Друг мой мілы!
Скажы свайму старшыні,
Што ён (да *любой* магілы!)
Дурань з дурняў… Ідзі!” –
*Закурыў ён* цыгарку строгую,
Плюнуў пад ногі як след;
Ды пайшоў сваёю дарогаю…

Сакратар – заляцеў ў кабінет…

"Ну, хто гэта?" – вус старшынёвы
Цснем азмрочыў твар…
"Ды нсйкі ваш добры знаёмы!" –
Ледзь выдыхнуў сакратар.
"Знаёмы?.. мой!.. Што за лажа?! –
Цырубалка зароў. –
Макар! Кулак – не прамажа!.."
"Я?.. гэта!.. – шукаючы слоў,
Залапатаў Макарка, –
Так зразумеў…" – "*Кажы!*
*З чаго* паэт-нсбарака –
*Друг* старшынёвай душы?!" –
Ледзь Цырубалка *словы*
Нс глытае; *зараз*…
"Гэтага ён не мовіў, –
Дрыжыць сакратар у адказ. –
Ды ясна сказаў (для смеху!)
Што вы, пан старшыня,
Дурань з дурняў…
Ва ўце-е-еху!
Вы праўды хацелі!.. *Я?-я!-я!..*
Я проста – падумаў!.. Міжволі!..
Што той, хто не знае вас,
Так нс сказаў бы!.. Ніколі!..
Даруйце!.. ў апошні раз!.."

Пайшоў *сакратар*
у прыёмную,
Сціраючы
слёзы са шчок…
*Цырубалка ж –*
дастаў скаромную *
Бутэлечку
*(што для ног?..)*

*Выпіў!* –
Душой успацсўшы…
Скрывіўся, –
*Бы мыла з'еўшы…*
*Забыў*
        пра цырульню сваю;
Ды рэнту –
*Сакратару…*

*01/02.08.2004.*

---

* Скаромны – **1.** *Уст.* Паводле рэлігійных прадпісанняў – *забаронены для яды ў час посту (пра мяса, сала, малако і г.д.)*
**2.** *перан.* Разм. *Непрыстойны,* – ***удакл. аўт.***



# ЦЫГАН І ПОП

Наняўся цыган
Сена касіць:
Не *ў каго-небудзь,*
А ў папа!
Кожнаму ж трэба
Падзарабіць...
З золатам
Розныя *"па"*
Усім,
*Як бач,* удаюцца:
І цыганам, і папам!..
(Ды нешта
Пачаў я пнуцца...
Вось, дзетачкі, казка вам!..)

Значыцца,
Дагаварыўся
Цыган
Сена касіць...
Ледзь з папом
Не пабіўся;

Крычыць:
"*Трэба плаціць,*
*Бацюшка,*
За работу
*Такую, – як за каня!*
Тым больш,
Я маю ільготу:
*Радзімы* ў мяне няма!.."

*Неяк*
дагаварыліся…
Выпілі магарыч… [1)]
*Напіўшыся –*
пазабыліся
*(Сон жа – найлепшы зніч!..)* [2)]

*А тут –*
І сонца на вежы!
Цыган
Напакаваў
Добрую
Торбу ежы.
Бутэльку
З сабою ўзяў…
Пайшоў
З папоўскімі пеўчымі
*На бацюшкаву*
*сенажаць…*
Ідзе,
Не мінае ні дзеўчыны,
Ні бабы *(такая масць!)*

*Прыйшоў-паглядзеў –*
Завохкаў:

Вялікая *дужа*
Раса;
Буссл яшчэ
Не клёкаў;
Нс лётала
І аса…
"Уранку касіць
Няможна, –
Кажа цыган пявунам. –
*Пудам*
*Расінка* кожная!
*Трэба* паснедаць нам…"

А пеўчыя: *што ж?*
І рады!..
Селі
Снедаць яны
(*"Цыган – мастак*
На парады!" –
Думаюць
Пявуны…)
*Глядзяць:*
І сонца, як бачыш,
Пачало прыпякаць
*(Ну, чым ты*
Яму аддзячыш?!..
*Хіба што – супрацьстаяць!)*

"Удзень
Касіць нам нельга, –
Кажа пеўчым
Цыган. –
Млосна!
Давайце абедаць..."

*(Што ж –*
*Ізноў* у бур'ян!..)
*Абедаць – яно*
Не снедаць:
Елі гадзіны з дзвс…
(Псўчыя – "бацьку"
Вераць:
*Не раўнуючы,*
*як сабе!..*)

"Зараз, –
Цыган з натугі
Кажа, –
Трэба паспаць:
*Каб здор завязаўся…*
*Другі!*
*Усім –*
Адпачываць!"
"*Калі ж, –*
Пытаюцца псўчыя, –
*Атаву* будзем касіць?!"
"*Адвя*чоркам…
Во! дзсўчына!..
*Не сенам жа толькі жыць?!"*

Паспалі
Да всчара; ўсталі…
*Смаліць!*
Глытнулі вады…
"І цяпер, –
Гледзячы ў далі,
*Цыган*
*выдаў. –*
Не да касьбы!..

*Камары!*
*Дай, божа, ім веры!..*
Ну што, мае друганы!
Значыцца,
Час вячэры…
*Раскладайцеся,* пявуны!..”

Павячэралі.
*Торба* –пустая...
“Ну а зараз, –
Кажа цыган, –
І дахаты пара…
*Вунь – зграя*
*Ваўкоў!*
Мінула капкан!..
*І тая*
Пайшла дадому…”
……………………………………
*Прыйшлі*
дахаты яны…
Цыган,
Напусціўшы стомы,
*Пайшоў да папа: “Ух, ты!..*

*Ные* – спераду,
Ззаду…
*Мала ды ж яшчэ* –
*Паміраць!..*
Давай, бацюшка,
Плату:
Скасілі
*Усю* сенажаць…”
……………………………………
Заплаціў яму поп

*(Без здачы!)*
За работу, як абяцаў.
*І даў яшчэ –*
*У прыдачу! –*
*Пірог...*
Ды цыган прыстаў:

“*Не,* бацюшка,
*Гэтага – мала*
За такую работу…
*Дай*
Яшчэ мне мяса;
Ці сала...
Смялей!
*Не* заціскай!..”
Поп
Пачаў таргавацца:
“Хопіць без сала табе!..
Канешне,
Нялёгкая праца…
*Дык піў жа-еў на касьбе!*”

“*Ну,* бацюшка! –
Кажа цыган. –
*Не даў ты мне*
Трохі сала…
Дык ведай: *я –*
Варажбіт *(не галган!)*
*Каб тваё сена –*
*Травою ўстала!..*”
Закурыў ён люльку,
Сплюнуў у бок;
Ды пайшоў сваёю пуцінаю:
Вымяраючы шпарка

За крокам крок
*(Не дружыць цыган з хацінаю!..)*

*А поп?..* Назаўтра
Пасхаў *сам*
З пеўчымі
Сена грэбці…
*Глядзіць – і* праўда:
І тут, і там
(Ледзь не наклаў
У лэпці!..)
*Замест* – сена
*("Божухна мой!")*
*Трава стаіць!..* Ды пахне
*Так,* што поп, –
*Са сваёй барадой!* –
*Упоруч* –
*Чахне ды чахне!*

"*Ай-яй-яй!* –
Хрысціцца поп. –
Не даў я цыгану сала…
*А так…*
Вось дурань жа! *Асталоп!*
*Уся*
Работа прапала…"

*03/04.08.2004.*

---

[1] Магарыч *(разм.) – пачастунак, які наладжвае той, хто атрымаў прыбытак ад якой-небудзь здзелкі,* – ***удакл. аўт.***
[2] Зніч – *святы агонь у язычнікаў,* – ***удакл. аўт.***



## ХВОСТ ДЫ ГРЫВА

1

Быў у бацькі сын Хвядос.
*Йшлі* гады. Сыночак рос.
Толькі вывучыў ён словы,
*Глядзь – жаніцца ўжо* гатовы!
(Не схавацца ад жуды:
*Мілямі* ідуць гады!..

Ледзь афармілі ў садок,
Не агледзеўся – *парог!* –
*Школа* дзверы адчыняе...
Годы-годы!.. *Хто вас знае?!*
А як скончыш інстытут –
*Праца-праца*... там і тут!..)

*Што ж?* Рашыў, як мае быць,
Бацька сына ажаніць...
Сам пасхаў дзеўку сватаць
*(У сваты – яно! – не плакаць...)*
Ну а сыну, ад балды,
Загадаў сушыць снапы...

Як пайшоў сынок Хвядос,
Выціраючы свой нос,

*Значыцца, сушыць снапочкі?..*
Не спазнаў свае гадочкі;
*Дык сушылку* – і спаліў
*(Вось жа бацьку "падсабіў!..")*

*Тут* і сонца ўстала зноў.
Едзе бацька са сватоў…
Будзіць сына: "Хопіць! *досыць*
*Спаць!* мой міленькі Хвядосе!
Пойдзем, браце, малаціць…
Прывыкай *работай* жыць!"

Не расплюшчыўшы вачэй,
Сын адказвае: "*Лягчэ-э-эй!..*
*Не піхайся*, мой ты татку…
*Справы нашы* – не ў парадку…
Не было б у нас бяды –
Пагарэлі ўсе цапы…"

*"Пагарэлі?! Вой-вой-вой!..*
*Што ты кажаш, сынку мой?!*
Хутка танчыць на вяселлі…
*А! у нас – цапы* згарэлі!..
*Як?!* Што здарылася! *сын?*
*Бацька ж* у цябе – *адзін!..*"

Ускудлачаны, як чорт;
Разяўляючы *ледзь* рот,
Вымавіў Хвядос нясмела:
"*Гэта!.. як?.. яна* згарэла!..
*Ну...* сушылка! З ёю ўміг?..
І цапы… *да ўсіх* вярыг!.."

Бацька дзень пабедаваў…
*Ды Хвядосу* – дараваў:
*Сын ёсць сын – на ўсе* стагоддзі…
*Бацька* думае: ў народзе
Кажуць: "*Сына* ажані –
*Пусціць* розум карані!.."

2

Хоць ты голубам ляці,
*Жыць – не поле* перайсці…
Бацька адаслаў Хвядоса
Да папа на споведзь: "Носа, –
Кажа, – там не задзірай!
*Болей* – слухай… *Ну, давай!..*"

Сын прыпёрся да папа.
Пуза ў бацюшкі – *вуга-а-а!* –
Павалюся-пакачуся,
Нібы *сонцам* абярнуся!..
*(Ці-то – поўняй!..* Словам, поп –
*Тоўсты-круглы… Быццам – сноп!*

*Каб хацеў,* відаць, не змог
Ён убачыць родных ног!..)
*Поп спытаў:* "Рашыў жаніцца?"
"Так! *Жаніцца – не журыцца!*" –
Кажа весела Хвядос
(Моцна снекаючы нос…)

Паглядзеў сур'ёзна поп,
Запытаў, паскробшы лоб:
"А ці знаеш ты пацеры?"
"*Не!* дай, божухна, ім веры! –
Кажа хлопец; бы ў журбе. –
А вось ёсьцека ў мяне

Меншы, сарамлівы, брат...
*Дык ён,* бацюшка, як гад
На пацеры: паспаліты
На *ўсялякія* малітвы!..
*Рад маліцца* і ў начы!..
*Хоць ты "Каравул!"* крычы..."

*Узлаваўся* моцна поп,
Хлопца за каўнер загроб;
І хацеў *(без дай прычыны!)*
*Шлюб... адрэзаць* да дзяўчыны
(Толькі *споведзь* – заўважай! –
*Завядзе!* у шлюбны рай!)

Хлопца поп хацеў прагнаць...
Ды прыкмеціў *("Божа! Маць!..")*
Да дзвярэй той адступае,
*Нешта* – пад крысом трымае!
*(Добра* так *яно* тырчыць...
"*Мабыць,* нейкія харчы!..")

Поп уміг палагаднеў;
*Распачаў* – другі запеў:
"*Што гэта* ў цябе, раб божы?..
*Мо,* дамовімся як?.." – "*Можа!* –
Кажа весела Хвядос, –
Я *гасцінца* тут прынёс..."

*"Ваў! Якога?!"* – у папа
Пуза, ногі, барада
Задрыжэлі-загулялі –
Бы на моры цуда-хвалі...
"Ды патроху жывіны!
Ды патроху збажыны!" –

І Хвядос *(нібы рабом!)*
Палажыў перад папом
Курыцу, вянок цыбулі…
*Бацюшку* – нібы раздзьмулі! –
*Радасцю!.. (яны – багі!..)*
Круглы стаў *ва ўсе* бакі!

“Добра, – кажа хлопцу поп. –
Толькі зараз *(бачыць бог!)*
Спавядаць цябе не буду:
*Думкі* ў галаве – па пуду…
Позна, сёння я прыстаў:
Дзесяць душаў спавядаў!..

*Вось што*, хлопча дарагі,
Я табе скажу: бяры
Ты з хлява маю кабылу;
І на поўненькую сілу
Едзь ты з ёю на начлег...
*Так – заўжды:* ад веку век…

Заўтра ж я *(хоць давідна!)*
Разлічусь з табой спаўна:
Адпушчу табе грахі
Ад зубоў і да нагі…”

3

Вось і ранак узышоў.
Да папа Хвядос прыйшоў
*(Вой?.. надзьмуўся! – у* знямозе…
І стаіць на ім, – парозе…
*Божа! Што тут, да чаго?!)*
Поп пытаецца ў яго:

“Ты чаго-ета, Хвядос,
Так надзьмуўся?.. Вышай нос!
Хутка будзеш ты жаніцца;
*Дзеўка* – краля-галубіца!
*Я ўжо* абвянчаю вас!..”
А Хвядос яму ў адказ:

“Ранавата, мабыць, мне
Шлюбавацца; па вясне…
Бацюшка! I ты б надзьмуўся,
Каб у ночы скалануўся:
На начлезе тым пабыў…”
*Поп?..* ніб*ы імя забыў!*

“Што ж такое там было?
*Хто цябе спужаў?.. Ці што?!*” –
Поп прамовіў цераз сілу.
“Што было? Тваю кабылу, –
Кажа хлопец, – ля ракі
Укусілі…” – *“Хто?!”* – “Ваўкі...”

*“Як гэта* “ўкусілі?!” *Вой!* –
Поп трасецца барадой. –
*Ну? кажы! Ці будзе жыва?..”*
“*Дзе там? б*ацюшка ты мой! –
Хлопец круціць галавой. –
Засталіся хвост ды грыва…”

Поп – *нібыта!* – абамлеў…
Спавядаць *яго ж* хацеў…

*01-04.11.2004.*



## МУЖЫК І ЖОНКА

*Н. Р.*

Адзін мужык у адным сяле
Часта сварыўся з жонкаю:
"*Гультайка ты!* – крычыць на яе,
Пазвякваючы баронкаю. –
*Я* – і ару, і кашу; *а ты*
*Нават* абед лянуешся
Мне прынесці ў поле!.. *Ыгы*...
Што добра робіш?.. *Цалуешся!*"

"Ды ў мяне дома работы больш,
Чым у цябе ў тым полі. –
Кажа жонка. – *каб мяне вош*
З'ела; да ўсёй маёй долі!
*Калі* мне прыносіць табе абед?!"

*Мужчына* – не верыць жонцы
(Вось жа сышоўся на вёсцы свет!

*І дзе?* У нашай старонцы!..)
"Якая дома работа? *Цьфу!*
Такую работу, гуляючы,
*Я*, як бачыш, *у міг зраблю...*
Ды як зраблю? *Прыпяваючы!..*
Ну, дзе тут работа? Паказвай! *Дзе?!*" –
Смяецца ён ціха-звонка…

*Аднойчы,* ў нейкі набожны дзень,
*Узлавалася* жонка:
"*Што ж?* Калі так, я паеду араць,
А ты заставайся дома..."
*Мужык* – зарадаваўся: "Ура! –
Выгульвае "Тома!-Тома!" [1)] –
*Добра.* Цяпер ты ўбачыш, маць,
*Хто з нас* праўдачку кажа!..
Араць – не гаршочкі перастаўляць;
Поле – не печ; *не сажа!*"

Сабралася жонка ў поле. З сабой
Трохі ўзяла пассці.
І кажа мужу: *"Каханенькі мой!*
Будзь дома. Не шорхайся дзесьці…
*Глядзі ж:* парабі работу; *усю...*"
Мужык азірнуўся на хату;
Рагоча: "Якая работа тут?
*Ой,* мілая!.. *Дайце параду!*"

"*Ну,* не дуркуйся!.. *У хату* пайшлі…
*Глядзі,* – паказвае жонка. –
*Бачыш!* вунь рошчына; [2)] у дзяжы?"
"*Бачу!* мая ты *папонька!*" –
Муж спрабуе жонку абняць...
"*Цішэ-э-эй,* – спявае каханая. –

Трэба мне ехаць поле араць;
*Ты ж* – застаешся за Ганну…
*Я!*
*Сур'ёзна кажу!.. Янка-Вано!*
*Мукі намяліце ў жорнах!..*
Цеста зрабі; а як яно
*Падыйдзе,* – спакойна-праворна
*Пасадзі* наш хлябочак у печ…"
"*Ну-у-у!* гэта мне – не турбота! –
Махнуў мужык далонямі, з плеч. –
Якая *яшчэ тут* работа?"

"*Масла збі",* – гаворыць жана.
"*І гэта* не цяжкая праца.
*Што яшчэ?..* Мо, дацямна
Будзеш ты тут заляцацца?!" –
Абурыўся мужык (ніб*ы*!..)
"*Пільнуй цялят* на папасе, –
Мовіць жонка. – каб жа яны
У шкоду не ўлезлі *(ў калгасе…)*
Яшчэ работа?.. *Абед звары.*
Ды *наглядай умела*
*За квактухай:* каб без пары
З рэшата не зляцела.
*Глядзі!* любімы: *зляціць яна,*
*Яйкі як бач* пастынуць;
І ў гэтым будзе *твая* віна…
Кураняткі загінуць…"

Расказала жана мужыку
*Што* рабіць *яму* дома
(Натлумачылася? *Угу!* –
*Аж* узяла яе стома!)
*Ды* сабралася *(пакрысе)*

Паехала поле араці…
*Мужык* – пасміхасцца сам сабе,
Тупаючы па хаце:
“*Я* не толькі работу зраблю,
*Выспацца* ўволю паспею! –
*Закурыў ён люльку сваю.* –
*Ой,* жоначка!.. *Я* не згібею!..”

*Пачаў ён* муку малоць… *“Ла!-ла!”* –
Спявае сабе (на паўголаса…)
А каб работа *спарней* ішла,
*Узяў,* прывязаў да пояса
*Бойку – са смятанаю* (вох!)
Круціць жорны, ківасцца;
Дык смятана – *боўць! (мой бог!)* –
*Сама* на масла збіваецца!

*Якая* самота?..
*Якая турбота?!*
*Добра*
*Ідзе работа!*

*Тут* раптоўна *(бы грымнуў гром!)*
Злева суседскія дзеці
Як *расшчабечуцца* пад вакном:
“*Дзядзечка!.. Хопіць вам есці!..*
*Ці вы заснулі?! Глядзіце: вунь*
*Цяляткі* ў шкоду залезлі!..”
“*А каб іх*, дзеткі, *пабіў Пярун!*
Ці ў лесе *ваўкі* заслі!” –
Закрычаў мужычок. Бы птах,
Кулем “пайшоў” на вуліцу…
*А бойка? яна!.. – тарарах! – тах!-тах!* –
*Яго – па каленях*… Муліцца!..

Недзе *ўжо – там!* – паміж ног…
Трохі прабег ён *(оп! – лю!-лю!..*
*Не!* недалёка – ледзь за парог!..)
*Ды як – грымнуўся* вобземлю!..
*Дык* накрыўка *ў бойцы – бух!* –
Выскачыла *зарана!..*
(Бы з-за кратаў свабодны дух,
Вылілася смятана…)
Падняўся *ён (як ёсць – Дзед Мароз!*
*Хіба што – смятана* сцякае!..
Крыўдна, *дзеткі?.. Ажно* да слёз!..
*Калі* – галава дурная!..)

*Што ж?* Са злосці *плюнуў* мужык;
Пабег ужо *надта* скора…
Павыганяў цялятак *(усіх!)*
*З аўса;* прыгнаў на падворак:
"Не хочаце, – кажа, – *дзеткі мае*,
Пасвіцца на папасе?..
Стойце *галодныя!* у хляве!..
*Асобна жыць – не ў калгасе!..*"

*Вярнуўся ён* у хату. Глядзіць…
*(Што ўбачыў? Любога* ашпарыць!..)
Замест яго *(спявае! вішчыць!..)*
Рабая свіння гаспадарыць:
Рассыпала па падлозе муку,
Рошчыну з'ела… Да гэтага ж –
*Каб яе чорт узяў за нагу!* –
Сагнала *квактуху* з рэшата!

Мужык схапіўся за галаву
*(Як за яе не ўзяцца?!)*
Вытурыў з хаты тую свінню:

“*Вон!* – крычыць. – *папарацы!..* [3)]
*Вон! пакуль* нс прыйшлося забіць!..
*Вон!* паскудная *пігаліца!..*”
Стаіць у хаце: “Што ж мне рабіць?! –
Аж засвярбела патыліца;
*Так разважае…* – хоць ратаваць
Трэба мне гэтыя яйкі;
Бо як астынуць *(ні даць!-ні ўзяць!)*
Жонка *закруціць* гайкі,
Ды пад завязку: *выпіць* не дасць;
*Можа нават з паўмесяца!*
Будзс казаць: “*Не мужы-ы-ык ты!* Гразь!
Ва ўсіх *кураня-я-яткі* песцяцца…
*У нас жа? Вуга-а-а!* Нс было б жуды?
*Свіння **гаспады-ы-ыняй*** хмурыцца!..”
Мужык – *пакруціўся* туды-сюды!..
*Няма* гэтай блуднай курыцы!

Сеў мужычок *(а божачкі мой!)*
*З горачка… сам* на рэшата!
*Баіцца* паварухнуць нагой:
“Дзе ж гэта кура? *Дзешака?!* –
Думае. – добра!.. *Такой бяды?!*
*Ну,* падмяню яс трохі…
*Мне мой узрост – не годы-гады!*
Абы нс самлелі ногі…
*Сядзець* – нс зямельку губою рыць…
Вернецца тая квактуха,
Тады я злезу абед варыць…”
*(Словам, сядзець* – нс скруха!*)*

Ды ехаў праз вёску адзін казак;
Зайшоў ён вады напіцца;
*Убачыў?.. на рэшаце!.. мужыка?!*

Бы ў вока яму бліскавіца:
*"Што ты тут робіш?!"* – пытас ў яго.
"*А-а-а!* куранятак выседжваю." –
Кажа мужык… *"Што да чаго?! –*
Казак дрыжыць пад адзсжаю. –
*Хто* гэта, *браце*, цябе пасадзіў
*На рэшата?.. Сорам ды й годзе!.."*

*Мужык* – расказаў (праставаты ён быў:
Як *большасць* у нашым народзе…)
*Як ён* у хаце сваёй *(не чужой!)*
За гаспадыню застаўся;
*Як* над яго мужыцкай душой,
Відаць, *сам чорт* насміхаўся…

Парагатаў казак: *"Га!-Га!.."*
*(Я шчыра* ўсё пераказваю!..*)*
Ды як *давай* хвастаць мужыка:
Нагайкай!.. *Лупіць-прыказвае*:
"*Вось* табе (ад казачай душы!)
Мужык, за тваю дурноту!..
Жонка ў полі робіць работу…
А ты што робіш? Кажы?!"

Круціўся! *круціўся* бедны мужык;
*І*… падушыў усе яйкі.
Бачыць: няма паратунку – бзык
У казака (і нагайкі!)
Думас: "Буду сядзець? Памру!
Не жартачкі з гэтым зверам!.." –
*Саскочыў* з рэшата; ды на гару! [4] –
Схаваўся… у кораб з пер'ем.

Казак – напіўся вады; далей
Пасхаў, – усё рагочучы…
Мужык жа… Сядзіць у пер'і: "Змей!" –
Кляне казака; праводзячы
Таго ненавісным позіркам; *так*,
*Бедны*, з ім *"назмагаўся"*,
Што ад страху, – заяц-бяляк! –
*Калоціцца*...Во! напужаўся!..

А тым часам *(ну, не з рукі!)*
*Едуць?*.. прыехалі ў госці
Жончыны *(вой! яны!) бацькі!*..
У хату зайшлі ягамосці… [5)]
Глянула цешча вокам сваім
На непарадкі ў хатцы…
Кажа да дзеда: "*Не хлебам адным*
*Жыве чалавек?!* Не! трасцы!..
Не дзіва, дзед, што любімы зяць
З нашай дачкою сварыцца!..
Відаць, і праўда *(што тут казаць?)*
*Гультайка* яна… Надарыцца ж
Такое гора!.. Ярмом-ярмо!..
Не любіць дачушка працу…"
"Ну, калі так, давай аддамо
Гасцінец не дочцы, а зяцю", –
Кажа *стары*...
Мужык з гары
Усё гэта чуў – да кропкі…
Цікавасць яго ўзяла (да пары!):
*"Які ж там гасцінец прывезлі яны?!"*
*(Смяшыць* чалавек! – таропкі…*)*

Перагнуўся ён, мужычок,
Цераз кораб пузаты,

Каб убачыць *(вось жа смарчок!)*
Той самы *гасцінец* пракляты…
А кораб?.. без *намаганняў!* слоў! –
*Бабух!* – паляцеў стралою:
Разам з ім! мужыком!.. *далоў!*
(Ды з грукатам!.. Ды з бядою!..)

Пачулі дзед з бабуляю той
Грукат? Выбеглі ў сенцы…
І бачаць: *нехта* (аж з галавой!)
У пер'і, чэша калсснцы!..
"Чорт!.. *А чорт!..*" – закрычалі яны:
*Разам, у адзін голас…*
Бабка – шпарка робіць крыжы;
У дзеда ж – не ўпаў і волас!
(Ні адзіны!) з сівой галавы
(Жыць – не цялятак пасвіць!..)
Намацаў ён *касцяк* качаргі –
Давай *таго чорта* дубасіць:
"Бач, нячыстая сіла, куды
Панадзіўся з дуру цягацца! –
Прыгаворвае дзед. – ідзі!
Яшчэ табе дам па срацццы!.."

Усхапіўся мужык з кален,
На агароды падаўся…
Кінуўся так, нібыта цень
*Чорта* за ім увіхаўся!..
Схаваўся там у каноплях… *і*
Сядзіць ні жывы, ні мёртвы;
Чухае ногі, спіну, бакі;
Дрыжыць: "Нагайка –
*не сталь качаргі!..*
Гаротны я хлопец, *гаротны!..*"

А тут – і вечар. *Сонца* зайшло…
Вярнулася жонка з поля.
Бацькі ёй кажуць: “*Мір і святло!..*
*Такая* цяпер *твая доля!*
*І – у цябе,* і ў твайго мужыка
Не будзе *давеку* мукі!..”
“Чаму?” – пытаецца ў іх дачка;
Мыючы гразныя рукі.

“Бо *мы*...” – адказвае бацька... “***Ты**!..*” –
Удакладняе маці…
“Да… – згаджаецца той, – бяды
Болей не будзе ў хаце…
*Ёсць* яшчэ *тая моц* у руках:
***Мы*** выгналі *чорта* з хаты!
Ды як?! Далі яму па зубах…
*Ён* вас сварыў, *пракляты!..*”

І праўда… Мабыць, жыццё пазнаць
*Можна* – хіба пад нагайкай…
*Перастаў* мужык абзываць
*Жонку! – сваю! – гультайкай...*

*04-11.11.2004.*

---

1) “Тома!-Тома!” – *руская папсовая песня ў выкананні былога дуэта “Акадэмія”,* – ***удакл. аўт.***
2) Рошчына – *негустое цеста на дражджах або з закваскай, якое пасля замешваюць,* – ***удакл. аўт.***
3) Папарацци – *журналюгі, фатографы, якія падглядаюць за знакамітымі людзьмі,* – ***удакл. аўт.***
4) Гара – *вышкі ў сенцах; па тыпу, другі паверх,* – ***удакл. аўт.***
5) Ягамосць – *Яго Вялікасць,* – ***удакл. аўт.***



# ПЧАЛА І ШЭРШАНЬ

*Я. Коласу*

1

Прыйшла вясна. Расцвіла зямля.
Выраслі ў лесе кветачкі…
Ой жа! пахучыя: “Дзынь! – ля!-ля!” –
*Спяваюць!* бы мілыя дзетачкі.

Сінеюць нябёсамі васількі…
А паміж імі, ваконцамі,
Нібы астравы ва ўлонні ракі
Бялеюць рамонкі сонцамі…

Усюды каханне расце, цвіце
(Якос вясною горачка?!)
І тут, і там – у любым куце! –
Як у лясочку добрачка!..

*Вунь!* зацвіла *чаромха ў гаі!*
Звіняць камарыкі, мушкі;
Мільгаюць вясёлкаю матылькі…
*(Дзе вочкі твае?! Дзе вушкі?!)*

Камарыкі носяцца: "Піў!-піў!-піў!"
Хоць і нябачны іх тварыкі,
Як апануюць – ды неўспадзіў!
*(Не моцна* кусаюць камарыкі!..*)*

*Мушкі-пяюшкі* гудуць, гудуць,
Адна за адною ганяюцца;
Крыльцамі звоняць: пяюць, пяюць!
*Смяюцца* – нібы заляцаюцца!

І матылёчкі крылкамі – *жух!* –
Ціха зямлю абдымаюць;
*Жоўценькі, сіненькі, беленькі* пух –
Крылкі іх так і лунаюць!..

Бярэзінкі зноў апранаюць убор…
А елкі – зялёныя струны
Пафарбавалі ў салатавы ўзор…
Недзе зязюлька кукуе.

Цёпленька, весела *(як у раі!)*
У беларускім лесе!..
Вы мне не верыце?! *Дзеткі зямлі!*
*Схадзіце! ну хоць бы на ўзлессе!..*

*Ды гляньце! як* расквітнела зямля!
Як на поўныя грудзі
Дыхае бацькаўшчына! – *уся!*
*(І што ёй грэшныя людзі?!)*

2

…*Пчолка* вылецела з вулля.
Вясёленькая (не ў скрусе!)

*Паляцела яна* (спакваля)
*Мядочак* збіраць на лузе.
Радасна, добранька па вясне!
Збірае мядок…
*Аж чуе?*
*Шэршань* недзе гудзе-пяе:
*Прыгожа!* – нібы малюе
У пералівах песні сваёй
І елачак цуда-іголкі,
І бярэзінак пышны строй…

*Вось* – падляцеў да пчолкі;
І кажа: "Пчолачка! Песня мая!
Будзь ты маёю жонкай!..
Якія мы слаўныя: ты ды я!..
Як пройдземся нашай старонкай –
Упоруч! разам! *адно з адным!* –
Камарыкі, жабкі *(ды мушкі!)*
Ад зайздрасці той аж сойдуць на дым!..
*Ах!* пчолка... Якія *істужкі*
Я хачу табе падарыць!" –
І шэршань дастаў з-пад крылкаў
Свой падарунак… з яловай кары
(Відаць, *ад любові* пылкай!..)

"Не, пачакай… *Ну, гасподзь з табой!..* –
Пчолка яму спявае. –
Давай наўперад, любімы мой,
*Мёду* мы назбіраем.
А потым, шэршню *(такой бяды!)*
Па восені – і пажэнімся…
*Я* – паляцела! Старайся і ты…
У лістападзе сустрэнемся…"

І паляцела пчолка збіраць
Мядок (на кветачкі-краскі!..)
Нават – спрабуе сабе падпяваць
*(Не трэба ёй іншай казкі?!)*
Цэлае лета працуе яна,
Пабольей мядку прыпасае;
Стараецца зранку і дацямна…
Аж перадыху не знае…

*А шэршань?..* Кожную ноч сядзіць
У цеснай гнілой асіне.
Толькі раніца зазвініць
(Толькі *ночка* астыне!)
Выпаўзе ён з асіны свайй,
Пагрэе на сонцы цельца;
Пачэша лапкай адной, другой
Патыліцу, шыю, каленца…
Ды ляціць у суседні гай:
Пагульвае, скача спрытна;
Нічога не робіць *(быццам* – бай…
*Кожнаму ўлетку сытна!..)*
Патанцуе каля ракі…
А ўвечары? *Зноў* да асіны:
Вылежвае крылкі, спіну, бакі, –
Смокчучы кветкі ажыны…
І так, забыўшыся на жыццё,
Прагуляў ён цэлае лета…

*Восень* прыйшла! Апала лісцё.
Цёплых дзянькоў карэта
Паляцела ў другія краі…
Холадна стала, вятрыста.
І тут, і там – у лузе!-ў гаі! –
Кветак няма – *ўсё чыста!*

(Тут бы, здаецца, і *казцы* канец?!)

Нанасіла пчолачка мёду, –
*Ой,* малайчына! *Ай, маладзец!* –
Цэлую, з верхам, калоду!
*Ёсьцека з чым* зіму пераажыць!..
Пафарбавала (ажынай!)
Губкі свае; *і...* сама ляціць
Да шэршня…
*Што за карціна?!*

Мілы сядзіць (жаніх-жаніхом!)
Ля дзвярэй, на асіне.
*Холадна ў хаце* (асінавы дом
*Не тыя* праблемы падкіне!..)
Бедненькі шэршань!.. Так адубеў,
Што і ляцець ён не можа
(А некалі ўлетку ягоны спеў
Грымеў – *хіба што* да Сожа!)

"Ну што, шэршань, – пытае ў яго
Пчолка. – будзем жаніцца?..
Твой падарунак: *яловы! – о!-о!-о!* –
Мая (ад Ларана!) спадніца
Упрыгожыла *(хто б прадказаў?!)*
Да новамодных экспрэсій!.."

Можа б, *другое* што адказаў
Шэршань…
Ды ў стане дэпрэсій –
Голаду, смагі; ці маразоў –
Разгаварыцца складана…
Не адчуваючы дзён-часоў
(Бы ные адкрытая рана…)

*Толькі*... лапкамі паварушыў
Шэршань; піснуў: "*Піў!..-піў!..*
Не лезь, мая пчолачка… *Ой!* не цешся…
*Не лезь! бо* – удавой застанешся…"

*25/26.11.2004.*



# СТАРЫЯ, ЯК МАЛЫЯ...

1

Пасвілі ў нейкай вёсцы авечак
Два пастухі – Дзям'ян і Раман.
Абодва – немаладыя (свечак
Ад тых душэўна-сардэчных ран
Яны не насілі – ну, аніколі! –
Ні ў касцёл, ні ў тую царкву...
На вёсцы жыць – разсвятая доля
І без свечак... у кажушку!)

*Дзям'ян* – ён быў чалавек справядлівы,
Работу сваю сумленна рабіў...
*А Раман* – чалавек жартаўліва-ўхцівы,
Усё хітраваў (ну, такім ужо быў!)
За авечкамі бегаць ён ленаваўся:
То ў яго ножанька забаліць,
То схопіць жывоцік (няшчадна браўся
Боль за ўсё... *Абы не рабіць!*)
А *што* лепшага ў торбу трапляла

Ад іхніх, значыцца, гаспадароў,
Першым з'ядаў: хлеб ці то сала –
*Усё ішло:* на "Ура!-Будзь здароў!"

Не падабаўся Дзям'яну *(адразу!)*
Яго таварыш. Ды што тут зробіш?!
(Зямля!.. Ты – *розныя* косці носіш!..)
Цярпеў Дзям'ян; да пары да часу…

2

Неяк у свята (у ранак добры!)
Ох! *раздобрыліся* гаспадары;
І паклалі дзядам у торбу
Мо, з дзесятак яечак!.. ды
Добры! ладны кавалак сала
(*Таўшчынёю* – хіба, з далонь...)
Як пастухам *вясёленька* стала!
Як пульсус ў Дзям'яна скронь!..

Узялі Дзям'ян і Раман з сабою
Патэльню, запалкі, вязанку дроў…
Расклалі агонь, –
*каб пячы ў тым полі*
Яечню (авечак глядзець – не кароў!)
Гамоняць сабе пра тое ды сёе
(Мабыць, удакладняюць меню!..)
Скінулі світкі (мінула былое)
*Цёпла* стала каля агню!..

"А помніш, Дзям'ян, як мы з табою
Малыя былі?" – гаворыць Раман.
"Дзіва што помню?! Забудзеш такое! –

Ажно падскочыў з калень Дзям'ян. –
Ты тады, як кот па кілбасы
(Ці па сала? А мо, па тлушч?!)
Усё ў чужыя садочкі лазіў:
Мала *сваіх* было *яблык і груш!..*
А гэтых авечачак мы з табою
Разам пасвілі і тады...”
“Але! – Раман трасе галавою;
Глытнуўшы, нібы са смагі, вады. –
А помніш, як мы тады гаварылі?
Не так, Дзям'ян... Не так, як цяпер!”
“Пэўна ж не так... Былі малыя!..
Ты ўжо мне, мой Раманку, павер, –
Расхваляваўся Дзям'ян, – бывала,
Як не спіцца мне па начы,
*Дзяцінства бачу – як гэта сала!*
Бачу *так?..* хоць нема крычы.
На авечак казалі – *авецацкі;*
А агонь у нас – *жыжай* быў...
Ах, дзяцінства!.. Мілыя кветачкі!..
*Як успомню* – быццам не жыў...
Старасць-старасць... *Кожны з ёй хворы...*
*Самота* б'е! – *ажно цераз край!..*”
“Братка Дзям'ян! Дык давай пагаворым
Мы так і цяпер... *Ну, што ты?! Давай!..*
*Гэта ж* – вельмі цікава! смешна!” –
Кажа Раман...
                    “Пацешна... –
Удакладняе Дзям'ян. –
Давай пагаворым, Раман.”

І пачалі
            дзядочкі сівыя
Гаварыць – як малыя...

3

“Ты, Раманацка, – кажа Дзям’ян, –
Кладзі халасо галавесацкі;
Каб за *патэльня* лягла без заган!
А я *– у сонцы яецанькі!* –
*Нарэзу* сквалацак!.. *Халасо?!*”
“*Налэз сквалак,* Дзям’янацка. –
Кажа Раман. *– о!.. Добла!* Во?!
Мо, гэтая – тоўстая сквалацка!..”

Так і гамоняць! гамоняць яны…
А тут – і яечня спяклася!..
Убачыў Раман: у далечыні
Авечка *ў ячмень* падалася! –
“Дзям’янацка! Боза мой! А паглядзі?!
*На яцмень! На авецацку тую!..*
Бязы, калі ласацка, адгані…
А яецаньку я *павалтую!..*”

Усхапіўся ўміг паслухмяны Дзям’ян
І пабег адганяць тых авечак…
А Раман? (вось *хітры* мужык! *галган!..*
*Не ставіў* па цэрквах свечак!)
Узяў тым часам яечню *– хоп!* –
І з’еў! *– усю! (ды з салам!..)*
Вярнуўся Дзям’ян: аж вочы на лоб
Палезлі *– патэльня* пустая!
(Нават *– яго!.. таго туку* [1)] няма!)
“А яецанька дзе?” – пытаецца.
*“Жыжа – гам!-гам!”* – гаворыць Раман;
*І*... аблізваецца, усміхаецца.

Ну, жыжа дык жыжа (якіхсьці слоў

Не трэба!.. Тут словы – пустыя.)
Пасслі дзяды каля вогнішча; зноў
Гамоняць – як тыя малыя…
А тут – авечкі! – ў той жа ячмень –
*Шусь! – ізноўку* палезлі…
Ускочыў Раман *як бачыш* з калень;
Бы цела сляпні заелі:
"*А бозацкі! Бозанька! Сцыланькі мой!..*
Бязы! *адгані іх,* Дзям'янацка!"
"*Не-е-е!* – круціць Дзям'ян галавой. –
*Твая* цалга, мой Раманацка."
"*Вой! у мяне…* зывоцік зуззыць!" –
Раман за жывот ухапіўся.
"*Не зыватом!..* Ты – *нагамі* бязы!" –
Дзям'ян *(нібы!)* абурыўся…

Давялося Раману на гэты раз
*Самому ляцець* да авечак
(Мабыць, дзеткі, цікавіць вас
Дзям'ян? – *таксама ж* ён свечак
Ні ў касцёле, ні ў той царкве,
Як і Раман, не ставіў…
Знаеце, *дзеткі,* – не ў галаве
(Сярод гаспадаркі-атавы!)
Сялянам нейкі будда ці бог…
Тым болей – спакойным мужчынам;
Пад вечар – абы заваліцца на бок:
Наробішся *так!* – хоць *клінам*
Веру якую ў душу заганяй –
Дарэмная праца-турбота!..
*Хіба што – бабам* нябёс падавай;
І то – пасля *ежы… Работа!*
(Работа б'е і пад дых, і ў скронь…)
……………………………………………

Пабег – *кульгаючы (брыдка!)*
Раман… *А Дзям'ян? – хоп!.. –*
*у агонь*
Паляцела Раманава світка!..

Вярнуўся Раман? *Світкі* няма.
"А дзе з мая світка, Дзям'янацка?" –
Пытае ў таварыша… "*Карма-калма!..*
*Яе – жыжа: гам!-гам!* Раманацка…" –
Развёў рукамі спакойны Дзям'ян…

*Узлаваўся* Раман на Дзям'яна;
*Раскрычаўся* – нібыта якісьці пан
(Крычаць на сяброў – загана…)
І падаў на таварыша ў грозны суд:
За тое, маўляў, што ён – *баламут!* –
*Узяў-спаліў* яго новую світку
*(Эх!* не цягнуць бы за гэтую нітку!..*)*

4

Выклікае суддзя *(ой! грозны, суровы!)*
Былых сяброў на вялікі суд…
І кажа: "Слухайце ўважліва! Словы
Лішнія мне не патрэбны тут…
На пытанні мае адказваць дакладна,
Ясна, проста… *Ну* – упярод!
Пытанне – першае, да Дзям'яна:
Чаго ты, стары, баламуціш народ?
Навошта спаліў ты Раманаву світку?"
Дзям'ян у адказ: "Таварыш суддзя!
Увесь перад вамі я – чысты, празрысты:
Ніколі ні з кім не сварыўся я.

Жыў-працаваў, як пчолка, старанна…
Спытайце *ў яго: калі тое было?!*”
“Добра, – кажа суддзя. – *да Рамана*
*Цяпер пытанне:* што да чаго?”
“*А ці ж ён, гіцаль,* [2] ужо не помніць?! –
Раман узбуджана залапатаў. –
*Бачыш? на памяць* зрабіўся цёмны,
*Як я ў суд* на яго падаў!..
Гэта было, суддзя мой! таварыш,
Тады, калі мы малымі былі…
*Успамінай! Што ты мозгі парыш*
І мне, *і яму – ягамосцю-суддзі?!*
Таварыш суддзя! Мы тады гаманілі
*Па-дзіцячаму! ў полі! каля агню!..*”
Ледзьве Дзям'ян не губляе сілы,
Хаваючы смех *за душу* сваю…
“Але, – Дзям'ян нібы разважае. –
Гэта было?.. Ага! акурат,
Мо, з паўсотні гадоў назад;
А мо, і паболей?.. Хто яго знае…”

Узлаваўся суддзя як бач на Рамана:
“Што ж ты, ёлупень! [3] Дурань стары!
*Мне даўняе ўспамінаеш?..* Мо, п'яны?!
*Трэба было* – у свой час, *тады*
І на суд падаваць!.. *Які дуркаваты!*
Што ж ты народ баламуціш *цяпер?!*
*Вон!* Вымятайся з судовай палаты!..
Я! калі справядлівы, – *звер!..*”

І выгнаў суддзя Рамана з суда.
Штрафу – не даў *(і на тым не бяда!..)*
Стаў Раман асцярожным да працы
(Хітрыкамі – перастаў ён займацца…)

5

*Не дарэмна* народ наш мовіць!..
Хай, дзіцятка, душа твая зловіць
*Хоць бы гэтую* цуда-прыказку;
Занатуй – як божую іскарку! –
"Бог – не цяля!..
Ён бачыць яго, –
Круцяля!"

*02-04.12.2004.*

---

[1] Тук – *растопленный жир,* – ***удакл. аўт.***
[2] Гіцаль – *плутишка, мошенник,* – ***удакл. аўт.***
[3] Ёлупень – *остолоп,*– ***удакл. аўт.***



# НЕ КАЖЫ "ГОП", ПАКУЛЬ НЕ ПЕРАСКОЧЫШ

Пра паляўнічых (дальбог!)
Расказваюць *розныя* байкі.
Любімы іх абярог –
Мядзведзі, ліскі ды зайкі…
*Ох!* штукары яны
На выдумкі – не дагоніш!
(У марах – як не круці! –
Не дапамогуць і коні…)
Любяць яны і прылгаць
З такой нагоды-напасці,
*І* – памарыць *(што ўжо казаць?!)*
Аб сваім паляўнічым шчасці...

Ды спявайце вы хоць *наскрозь!..*
*Вось жа дзіва* – фантасмагорыя!.. [1)]
*Такой* бяды!..
*Ну дык вось* –
*Якая! – была! – гісторыя!..*

*Жыў-быў* некалі ў нас
Адзін такі паляўнічы.
Пайшоў ён у лес – падчас
Цудоўнай зімы, маляўнічай.
*Глядзіць:* спіць пад кустом
*Заяц!* – харошы, спрытны;

*Храпе* – хоць ты грымні гром!..
Тоўсты, гарэза, – сыты;
На добрых лясных харчах
*Адкарміўся* за лета:
Не занясеш на руках!..

"Вось песня твая і спета!..
Час развітацца з жыццём!" –
Узрадаваўся паляўнічы,
Дастаючы *капшук* з тытунём
(А з твару – *такі* ваяўнічы!..)
Напіхае ён люльку; а сам
Любуецца зайцам, хістаецца;
*Думае! думае!..* Аж па нагах
Асалода бяжыць-увіхаецца.

"Няхай, небарака, яшчэ паспіць, –
Паляўнічы рашае. –
Куды нам зараз ужо спяшыць?
Падрыхні!.. Хто яго знае:
Ад сну не толькі ён, чалавек,
Можа, і заяц тлусцее…
Як жа храпе! Варушыцца снег!
Мо, футра белае грэе?..
Нікуды ён цяпер ад мяне
*(Хіба ж я не паляўнічы?!)*
Ужо не дзенецца-не ўцячэ…
А што ж я з гэтае дзічы,
Як застрэлю, тагды зраблю?!"

*Мужык* – закурыў *(па чэсці!)*:
"Ага! Мяса?.. яго – пасалю!
*У дзежку складу!* Буду есці
Патрошку (кавалак, хіба, – на дню!)

А шкуру? (хвацкая шкура!)
*Прадам! Немалыя* грошы вазьму!
(Мужык я! *Не баба-сцяпура!*)
Дзёшава не прадам! Сваю
Знаю я праўду-ношу!..
*Так! так!..* А што ж я тагды куплю
За тыя прыгожыя грошы?"

Прыкінуў мужык і гэтак, і так:
Дзірак у гаспадарцы,
Як не круці, у адзіны кулак
Не возьмуць ні ліскі, ні зайцы…

"Ага! – падумаў, – лепей куплю
На грошыкі тыя курачку!
Харошую, тоўстую!.. Хоць бы зямлю,
Шукаючы курку-мурачку,
Мне б давялося прайсці-абыйсці?
*Знайду!.. куплю!.. патаргуюся!..*
*Ад зайздрасці, сквапнасці?!* Ні!-ні!-ні!..
*(Не дарэмна ж* зайцам *любуюся?!)*
Курачка – *яек* мне прынясе;
Адразу (ад яйка *першага!*)
Потым вазьму, пасаджу яе
На тыя яечкі ў рэшата;
Яна праз дзень (максімум – тры!..)
Мне куранятак падорыць
(Курачку ж я куплю *не абы*
*Якую!..* Хіба ж тыя моры,
Землі заморскія, я абыйду
Дарэмна, яе шукаючы?!)
Гэта – *Макар* (*на сваю* бяду!)
Сусед мой!.. на дудцы йграючы!..
Няхай чакае (тыдні са тры!)

Ад куркі *сваёй* прыплоду!..
Псўнікаў-курачак *мне* падарыць –
*Мая!* у любую пагоду! –
*Здолее?..* толькі *свіснуць-гукнуць!* –
Паляўнічы пастукаў у грудзі… –
Псўнікаў, значыць (як падрастуць!)
Парэжу!.. *Зноў мяса будзе!*
А курачак? *Курачак я прада-а-ам!..*
*Зноўку* грошай прыдбаю;
*Вялікіх грошай!.. Ай! – тара-рам!..*
Ой! *баю*, мой заю!.. *Ба-аю!* –
Ледзь паляўнічы ў люльку сваю
З радасці не спявае. –
Што ж я *за тыя* грошы куплю?" –
Зноўку ён разважае…

"Ага! Куплю я на гэты раз
Авечку! *(і ўвесь занятак!..)*
Авечку – харошую, першы клас!..
Яна прывядзе ягнятак:
Трох, чатырох *(нашто мне адно?!)*
Як мінімум, дзетак – парачку!..
Як жа я іх палюблю *(як віно!)*
Баранчыка!.. ды тую ярачку! –
Аж паляўнічага *(вой!)* трасе;
Бы ў землятрус *тую вежу.* –
Баранчыка, значыць, як падрасце,
Я *(гэта?!)* на мяса зарэжу;
От жа наемся (божачкі мой!)
Мяса цяпер удосталь!..
Трохі – *прадам!* –
каб "святой вадой"
*Запіць*… Ну, не ёсці ж проста?!
А ярачку? Буду я *гадава-а-аць,*

Люлеяць яе, ды песціць:
Зранку і ўвсчары вымываць
Разоў мо па сто (ці дзвесце!)
Год за годам?.. І – чараду
(Можа, нават пад тысячу!)
*Я!* – авсчачак развяду
*(Ой! зажсыву* – без вычытаў!..
Буду качацца па тым жыцці
Як коцік у масле!.. *Шчасце!*
*Толькі* – еш мяса; у ноч глядзі,
Каб *хто* не залез *украсці!..)*
А можа?.. Можа – і не адну
Я чараду адолею?!
*Так! так!*..Ой! далібог развяду!..
З мужчынскаю сілай-воляю
*Сябрую я* (глядзі на павер!)
Сілы ў руках – па пуду!..
*Гм!.. Ага..* Што ж я цяпер
З авечкамі *дзелаць* буду?..”

Думаў ён, думаў: перабіраў
Справы і тыя, і гэтыя…
Так меркаваў ад грашовых спраў
Пра мары свае запаветныя,
Што нават забыўся, *чаму ён тут:*
У гэтым, значыцца, лесе?..
*Люлька патухла!..*
Мужчынскі зуд
*Ізноўку* ў вантробы лезе…

“Ага! – надумаўся ўрэшце, – *нам*
Мяса таго не трэба!..
Авечак я *таксама* прадам
*(Мазгі* на плячах – *не рэпа!..)*

Грошай вазьму – вялізазны мех:
*Марак,* даляраў, сўра
*(Поўненькі* мех! *Ажно цераз верх!..*
Ніводная ў свеце хеўра
Ніколі мянс не падманіць; *не!..*
Гляджу я на свст сурова…)
Куплю карабель; ды па вясне
*(Бывай! мой Макарка-“Вова!”)*
*Нагружу яго*
лёнам і семем; *ды*
Паеду за Чорнае мора –
*Да!* – гандляваць!..
І шукай сляды
*Маё! – пазатое! – гора!..*”

Ажно *мужыка* прабіў калатун:
“За морам *лавэ* [2)] ўтаргую?
*Горы!..* Вярнуся дахаты *(у-у!)*
Маёнтак куплю… *Старую,*
Бабу сваю, выганю прэч;
Вазьму за сябс маладуху;
Стану багатым *як чорт, як смерч*
*(Любую вярну аплявуху!..)*
Зямлю мужыкам у арэнду здам;
*Падаткі* здолею ўвесці
*(“Што! дарагія, не казка вам!..*
*Абы вам паспаць-паесці?!”)*
Прыйдзе каторы з іх, мужыкоў,
*У мае* дарагія палацы…
*Паклоніцца нізка:*
“Гібее кроў…
Ад гэтай нялёгкай працы…
*Паночак! мілы!* Ну, пачакай:
З падаткам; на маці-зямельку…

*Ты ж* некалі быў як цёплы гай;
Як мы; ну, сваім у сяльку!..
Дзеткі – галодныя; грошай – няма…
Аддам апасля з дабаўкаю…
*Дзеці* памруць, *калі мне турма*...
Злітуйся ты над Саўкаю…"

…………………………………………

*А я?..* Пан Ян
(Сёння – Іван)
Вусы падкручу
Ды як закрычу:
*"Прэч, мужык,*
*З вачэй!..*
*Нясі*
*Падатак хутчэй!..*"

І так ён моцна *ўзяў-закрычаў*
(Наш паляўнічы шчаслівы!)
*Што, мабыць?..* у Афрыцы змерз удаў;
На Кіпры памерзлі слівы;
Амерыка вые: *"Усе – на вайну!..*"
У небе – зорак нястачы…
*А заяц?.. Ён* – прахапіўся ад сну
Ды толькі яго і бачылі…

* * *

Жыццё, мае дзеткі,
Яно ж – не кроп… [3)]
Кажуць жа людзі, –
У вочы, за вочы:
*"Не кажы,*
мой дружочак,

*“Гоп”,*
*Пакуль –*
*Не пераскочыш...”*

*07.08.2005.*

---

[1] Фантасмагорыя – *нешта выдуманае, фантастычнае, як бы незямное,* – ***удакл. аўт.***
[2] Лавэ – *грошы,* – ***удакл. аўт.***
[3] Кроп – *укроп,* – ***удакл. аўт.***



# НАДАКУЧЛІВЫЯ ГОСЦІ

*братам Адамам*

У ціхай вёсцы, каля вады
(Ля рэчкі, а можа – возера)
Жылі спакойныя два браты…
Не елі яны марозіва.
Працавалі – за семярых
(Якая галеча! жахі?!)
Ды раптам – *госці*
                    прыйшлі да іх:
Два гультаі-гулякі.

*Добра* сустрэлі браты гасцей:
Пачаставалі, чым мелі;
*Пляшку* паставілі *(як у людзей!)*
*Патанчылі* – як умелі…
(Госць – святое… Хоць – і ўдар
Па гэтых харчах-запасах…
Трэба ж неяк выгарнуць жар*
*І – братам…*)
                    *А тым часам?*

Мінае дзень, мінае другі,
*Тыдзень* мінае… А госці

*(Устануць жа людзі не з той нагі!)*
Дадому не едуць штосьці…
*Гуляюць сабе:* гарэлку п'юць,
Спяваюць да ранку песні…
Гаспадарам *рабіць* не даюць
*(Гора* братам – *хоць трэсні!..)*

*Якое вяселле?!* Калі штодня
Трэба глядзець гаспадарку
(Толькі працай – аж да цямна! –
Заробіш на хлеб і скварку…) –
*Свіней* пакарміць (ды даць *курам!*)
Адправіць *кароў* на выган…
*(Ой жа!* абрыдлі *госці братам!*
Не ведаюць, *як іх выгнаць?!)*

Думалі так; думалі сяк…
*Прыдумалі – пад світанак…*
Толькі госці выпілі гляк
Гарэлачкі – пад сняданак! –
Пайшлі браты малаціць…
*А там*
*(Вось жа словы загнулі!)*
*Давай – сварыцца:* каб жа бедлам –
*Іхні! – госцейкі чулі.*

Меншы раве: *"Палавумны!.. Гад!*
*Як жа ты збожжа дзеліш?!*
*Няхай! няхай ты старэйшы брат,*
*А ў крыўду мяне не змелеш!..*
*Давай дзяліцца!.."* – *"Не разяўляй*
*Рота!* – рыкае большы. –
*Хочаш дзяліцца?! Ха-а!.. Давай!*
*Дурань; заездзяць вошы!.."*

Вярнуліся ў хату; гудуць, гудуць:
*Дзеляць яе,* – гаспадарку.
*Так раскрычаліся?..* ледзь не б'юць
Адзін аднаго па карку
(Няма на свеце віны прасцей,
*Чым* пасварыцца з бліжнім…)
*Урэшце* – справа дайшла да гасцей…
(А госці – *бы тыя* вішні!..)

*"Давай і гасцей дзяліць!.. Угу?! –*
Мыкае брат на брата. –
*Я – вось гэтага госця вазьму*
*На сваю палавіну хаты,*
*А ты – другога…*
*Ён жа – пірат!*
*Будзе з кім пахмяліцца!.."*
*"Добра,* – згаджаецца большы брат. –
*Дзяліцца?.. значыць, дзяліцца!"*

*Што ж?..* Падзялілі
*яны*
і гасцей…
(Справа ж – *не* на паўсвета!..
Гасцей – не грошы дзяліць…)
Карацей?!
Настала пара абедаць…

Большы брат згатаваў абед –
Не адцягнеш за вушы:
Тут і кілбасы, тут і амлет
(Яблыкі тут; і грушы…)
А меншы брат – узяў-наварыў
Капусты, – *і то* нішчымнай!..

Селі – есці…
                    І тут браты
“Укленчылі” *больш* нястрымна!

*Меншы* кажа: “Во справы!.. Во-ось.
Бачылі б – татка, маці!
Няма ў мяне, дарагі мой госць,
Чым цябе частаваці…
Усю скаромніну пры дзяльбе
*Большы* ўзяў – пад завязку!..
Вазьмі ў яго *(ні мне!)* для сябе
Хоць бы адну кілбаску…”

І госць (як бык) папёр напралом…
Вельмі ўжо быў ён ласы
На ўсё чужое *(ды за сталом!)* –
На грушы, амлет, кілбасы…
Ды толькі ён працягнуў руку
Па кілбасу?.. *Брат большы* –
*Трах! – лыжкай па лбе…*
                    “У-угу!..”
*(*Вось – і *“Угу!..” Дзе грошы?!)*

Божачкі! Шчыры!.. *Ой?* неўспадзіў!..
Меншанькі брат – *апалонік* схапіў!..

“*Як?! –* завыў *(бы на ўсё сяло!)*
Зайшоўся?.. нібы адрыжкай. –
Дык ты! дарагога! госця майго
Будзеш кілбасіць лыжкай?!
О-о-о! Калі так, то я твайго –
Вось! – апалонікам трэсну!..
Няхай ■ буду дзікун, хамло!..
Няхай?.. душой не ўваскрэсну!..”

І так ён трэснуў па галаве
Яго – братава госця!.. –
Неба таму (ніб*ы*, на траве!)
Можа, з аўчынку здалося…
*Усхапіўся;* ледзь цягне нагу
(Нават – адбегчы не варты…)
Тут большы брат схапіў качаргу
*(Раз'юшыўся – ой! – не на жарты!..)*

“Што ж гэта робіцца?! Ты! мурло!..
Госця майго!.. пад страхою
Маёй! – *апалонікам?!*
Я твайго
Перацягну качаргою!”
“А калі ты – качаргою майго!.. –
Меншанькі брат бушуе, –
Дык я! твайго (было ні было!)
*Зусім* адрапартую!..”

Усхапіўся ён?.. ды павалок
Госця большага брата –
За каўнер! – за родны парог!
(Хоць на душы – гаркавата…)
“Ах! – закрычаў большанькі брат, –
Добра! Няхай жа следам
(Без нараканняў! крыўды!-парад!)
І твой за маім – “валетам!..”

Пры гэтых словах ён ухапіў
Госця меншага брата
Ды так яго *нагой* “палюбіў!..”
Ажно... пасвятлела хата.
(Нібыта сваркі – і не было!..)

Ачухаліся
              *тыя* госці?..
Пабеглі так – *уздоўж* павяло!..
(Трашчалі і сэрцы, і косці…)

Так браты (глядзі весялей!..)
Збавіліся
              неўзабаве
Ад
    надакучлівых
                    *тых* гасцей…
*(І дабро* з кулакамі бывае…*)*

*03/04.05.2006.*

---

* Выгарнуць жар – *выгрести угли,* – ***удакл. аўт.***



## МЯДЗВЕДЗЬ

*Міколу Вічу*

А ці знаеце вы, дзеткі мае,
Адкуль узяўся мядзведзь?
Не ведаеце? А!-ёй! – ля-ле!
То слухайце казкі медзь!
А можа – золата…
Толькі б вам
Спалася па начы:
Мякка, соладка… Я аддам
Усё, што ёсць на плячы.

Мядзведзь раней *(ну, даўным-даўно!)*
Быў, як і мы, – чалавекам.
Людзей па свеце мала было
(Кажу я ўсур'ёз; не смехам…)
Жылі яны па дрымучых лясах
(Каго толькі лес не гушкаў?!)

Ды палявалі (хто на нагах)
На розных звяроў і птушак.
А колькі ўлетку ягад-грыбоў,
Травак лячэбных, арэхаў!
Толькі б паспець да маразоў,
Толькі шукай *таго* меха…
Ды найболей святы народ
*(Наш! – беларускага свята!)*
Запасіў *(што? правільна!) – мёд;*
*Пчолак* было багата:
Яны вадзіліся і ў дуплах,
І ў сытай зямлі – у норах
(Вось і выраслі – як на дражжах –
Словы: "мядовае мора…")
Знойдзеш, бывала, мёд у дупле,
Абвяжаш дрэва вяроўкай,
І ўжо ніхто права не меў
На тое дупло (хоць коўкай…)

Ды жыў тады адзін чалавек –
Першы гультай несусветны.
Што яму ягада, грыб ці арэх?
Сніўся *мёд* запаветны!
Жылося яму, таму гультаю,
Не на святую славу.
Навошта траціць сілу сваю –
Душы і нерваў араву –
Самому шукаць па лесе пчол,
Калі наўкола чужыя?..
Растаўсцеў, зрабіўся як вол,
Ужо не відно і шыі…
Ды вось бяда: цяжка яму
Стала лазіць на дрэвы.
*Вой жа!* галадна гультаю!

А ўкруг – пчаліныя спевы;
І як жа ён, салодзсенькі мёд,
Пахам шугае ў ноздры!
У сэрцы-душы – *адно* калаўрот [1], –
Да *апошняй* аорты…
Пачаў ён думаць, ды меркаваць
(Бе-едненькі! аж – завохкаў!)
Што б такога зрабіць-прыдбаць, –
Каб лазіць на дрэвы лёгка?..
Ды нічога, як не круціў,
Так і не змог прыдумаць.

Але аднойчы *(ну, дзіва з дзіў!)*
Сустрэў... *Хрыста* каля дуба.
Гультай, канешне, не зразумеў,
З кім яго звёў у цноце
Нябёснай ліры прыгожы спеў
(Толькі мядок у роце!..
У ягоных тлустых мазгах
Толькі адно: "Пад'ссці!.."
Не разумее таўшчэзны гмах [2]
Святыя вестачкі-весці…)
Ды падарожны загаманіў:
"Там, за сямю балотамі,
Дзе дванаццаць бусловых ніў –
Сямю кругазваротамі!
Сям'ёй сямю непазбежных нот! –
Павучаюць народы;
*Там* ты знойдзеш (на кожны год)
Свае асалоды згоду…
Там жыве адзін чарадзей;
Ён цябе зробіць лёгкім…
Як? Ад *усялякіх* надзей.
Розум людзей – *ён!* – крохкі…"

Так ён вымавіў; ды пайшоў…
Гультай пабег па балотах
(Так, нібыта – скарбы знайшоў!
*Дзе там* ляцець па нотах?!)

Дабег да лесу. Бачыць: стаіць
Ліпа. Вяроўкай абвязана.
Ліпа – чужая!.. *Ды што ж рабіць?!*
Мэта самая важная –
Толькі пад'есці *(ды лёгкім стаць…)*
Глядзіць: дупло вельмі нізка;
А мёду ў ім? Ні даць-ні ўзяць –
Можа, пад сотню місак!
*Выдраў ён,* значыць, мёд з дупла;
Наеўся! – як той калека;
Далей шыбуе: зноўку яна –
Ліпа, з вяроўкай "нейкай…"
Выдраў мёд і *з таго* дупла…

Доўга йшоў (ці не вельмі?)
Нарэшце, вось і яна, зямля, –
Чарадзеева келля… [3)]
Між прыгожанькіх васількоў –
Сярод квяцістай палянкі! –
Выглядае, сыходзячы ў роў,
Дах хаціны-зямлянкі.
Падбег гультай (язык – на плячах!)
Да хаты, пастукаў у дзверы.
Няма чарадзея дома
                                        ("Ах!
*Дзе ж ты?! Дай бог табе веры!"* –
Падумаў гультай).
                                        *Дзе стаў, там сеў.*
(Тоўсты; стаміўся бегчы…)

Толькі каля дзвярэй хацеў
Неяк узяць-прылегчы,
Бачыць: перад самым яго
Носам *(як!* не заўважыў?!*)*
*Ліпа! з вяроўкай!..* Ды з дуплом!
*("Ах! божачкі! Мацi ваша!")*
Прывык (хоць самы вялікі кол
Чашы яму на патыліцы)
Гультай выдзіраць чужых пчол;
І тут здолеў намыліцца…
Ды толькі пачаў ён драць мядок,
*Глытаць (аж трашчала* глотка!*)*
Бачыць – ідзе гаспадар…
*("Мой бог!" –*
Крыкнулі бусел і плотка…*)*
Падышоў, паглядзеў чарадзей
На гультая (панура!)
І кажа, не зводзячы сон-вачэй
(Ажно таго скаланула):
"Ну, чалавеча, сам захацеў
Ты незайздроснага лёсу.
Есці хацеў, а не пацеў…
Не бачыў далей *свайго* носу…
За тую благую работу ты
З гэтага часу будзеш
Не хлеба прасіць, не чыстай вады…
*Пчол! будзеш драць;* як здзюжыш…"

І ўзяў?..
Перавярнуў чарадзей
Таго гультая ў мядзведзя…
Вось і чуцён мядзвежы рэй [4]
Па ўсіх абсягах Палесся.

* * *

А хто мне не верыць?
Ну, што ж… Няхай
Зловіць
У лесе мядзведзя
І распытае ў яго
(А!-яй!)
Ці праўду
                разносіць
Казка па свеце…

*08-28.07.2008.*

---

[1] Калаўрот – *прыстасаванне для падымання грузаў;* тут – у сэнсе: *для падымання калод з мёдам,* – ***удакл. аўт.***
[2] Гмах, *перан. – увогуле пра што-небудзь вялікае,* – ***удакл. аўт.***
[3] Келля – *асобны пакой альбо асобнае жыллё манаха, манашкі ў манастыры;* тут – *у сэнсе: адзінокае жытло чарадзея,* – ***удакл. аўт.***
[4] Рэй – *у выразе:* весці рэй – *быць завадатарам, верхаводзіць,* – ***удакл. аўт.***

# ЗМЕСТ

## ЧАСТКА 1



## ЧАСТКА 2

*Літаратурна-мастацкае выданне*

**Тарас Касмінка**
(Мяснікоў Аляксандр Анатольевіч)

# КАЗКІ

*паводле народнага*

Рэдактар *Валянціна Марук*
Вёрстка *Мікола Трафімчук*
Стыльрэдактар *Анатоль Паморскі*
Мастак *Кацярына Корсак*

Падпісана да друку 20.01.2010. Фармат 60х84/16.
Папера афсетная. Друк афсетны.
Ум. друк. арк. 9,53. Ул.-выд. арк. 8,02.
Наклад 800. Замова 36.

Выдавец і паліграфічнае выкананне
ТАА «Смэлтак»
ЛВ №02333/0494046 ад 03.05.2008.
ЛД №02330/0494212 ад 03.04.2009.
Вул. Радыяльная, 36, 220070, Мінск.
Тэл./факс (017) 285-45-70



**Тарас КАСМІНКА**
(Мяснікоў Аляксандр Анатольевіч) нарадзіўся ў 1972 годзе ў Мінску. Скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага універсітэта. Піша на беларускай і рускай мовах.
Выйшлі кнігі: “Казка пра Бога Святога і Дудара удалога”(2000), “Курка-рабка” (2005), “Маленькие поэмы” (2009).


ISBN 985691761-8
9 789856 917618

